# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 27 (592) ГОД XII 2 ЛІПЕНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

### ПРАГРАМА ЗАЦВЕРДЖАНА

Эстрада ГП БГКТ выступае ўжо з новай праграмай. Песенны рэпертуар рыхтаваўся пад кіраўніцтвам Эдуарда Гойліка, а танцавальную пару рыхтаваў кіраўнік эстрады Янка Крупа.

17-га чэрвеня гэту праграму праслухалі і адначасова зацвердзілі прадстаўнікі прэзідыума ВРН у асобах Вітальда Мікуцэвіча і Фелікса Слёнчкі. Новы рэпертуар вельмі ім спадабаўся.

### ФЕСТЫН БГКТ

Гайнаўскі аддзел БГКТ у Семяноўцы 19 чэрвеня арганізаваў фестын, які праходзіў пад лозунгам «50 год Вялікага Кастрычніка». Чытайце аб ім у наступных нумарах «Нівы».

### ПЛЕНУМ

Пленарнае пасяджэнне гарадскога праўлення аддзела ў Беластоку 13 чэрвеня абмеркавала працу аддзела за першае паўгоддзе 1967 года і зацвердзіла план дзейнасці ў другім паўгоддзі.

Даклад на гэтую тэму чытаў старшыня аддзела Кастусь Масальскі. Сцвердзіў ён, між іншым, што план працы, які быў прыняты на пачатку года на першыя шэсць месяцаў, амаль поўнасцю выкананы, а ў некаторых пунктах перавыкананы.

Не было арганізаванае толькі спатканне і не пачата праца з навучэнцамі сярэдніх школ Беластока, якія выводзяцца з беларускіх вёсак. Гэтае мерапрыемства перанесена на восень. А замест яго была арганізавана сустрэча з беларускай інтэлігенцыяй Беластока.

Падчас дыскусіі ўдзельнікі пленума пункт за пунктам абмяркоўвалі: як выконваўся прыняты план працы, якая якасць была гэтага выканання і як працавалі члены праўлення і актыў аддзела.

Аб мерапрыемствах праўлення аддзела ў другім паўгоддзі 1967 года напішам у наступным нумары нашага часопіса.

* ✲ *

10-га чэрвеня гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў вечарыну для хора. Прайшла яна вельмі цікава і весела.

* ✲ *

11-га чэрвеня актыў гарадскога аддзела ў колькасці 52 асобы ездзіў у Вялікі тэатр у Варшаву на спектакль «Дон Кіхот».

### БЕЛЬСКІ ХОР

Хор Бельскага аддзела БГКТ пад мастацкім кіраўніцтвам Георгія Шурбака карыстаецца вялікаю папулярнасцю. У маі і чэрвені выязджаў ён на канцэрты ў Чаромуху, Кляшчэлі, Клейнікі, Кнарыды і Дубяжына.

### НОВЫ ГУРТОК

23 мая моладзь у вёсцы Арэхавічы на сваім сходзе пастанавіла арганізаваць гурток БГКТ. Дэкларацыю БГКТ падпісала 11 асоб. Да праўлення гуртка выбрана наступныя асобы: Галя Валасевіч — старшыня, Оля Шуй — сакратар і Уладзімір Тур — скарбнік.

На гэтым жа сходзе было пастаноўлена арганізаваць драмгурток і інструментальны гурток, а таксама павялічыць колькасць членаў. Зараз на Бельшчыне налічваецца 46 гурткоў БГКТ. (мх)



**Мінск. Сталіца Савецкай Беларусі. Горад, які падняўся з руін і попелу. У гады Вялікай Айчыннай вайны Мінск быў амаль поўнасцю разбураны. Большасць прамысловых прадпрыемстваў было знішчана або вывезена ў Германію. Акупанты спалілі і разбурылі амаль усе жыллёвыя дамы, будынкі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў, школы, тэатры, музеі, клубы, бібліятэкі, бальніцы. А непадалёк ад Мінска, у вёсцы Малы Трасцянец, яны стварылі лагер смерці, у якім знішчылі сто тысяч чалавек.**

**Тут усё трэба было пачынаць ад пачатку. Старажытны Мінск, якому сёлета споўнілася 900 год, у пасляваенныя гады вырас на адзін з буйнейшых і цудоўнейшых гарадоў Савецкага Саюза.**

**За мужнасць і гераізм, самаадданую партызанскую барацьбу і за поспехі ў яго аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі Мінск узнагароджаны ордэнам Леніна.**

**Трэцяга ліпеня, у дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, шлем беларускай сталіцы і яе жыхарам самыя сардэчныя прывітанні.**

**На здымку канадскія турысты складаюць вянок ля помніка-абеліска воінам Савецкай Арміі і партызанам у Мінску, якія загінулі ў часе Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 г.г.**

# ЯЧЭЙКІ КПЗБ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Стан ячэек КПЗБ ва ўсходніх паветах сучаснай Беласточчыны паказвае залучаная карта, апрацаваная на падставе справаздач палітычнага аддзялення санацыйнай паліцыі. Не ўсе яны існавалі праз увесь час дзеяння КПЗБ. Дзейнасць некаторых з іх была параўнальна кароткая — з увагі на арышты і паліцыйны тэрор. Карта паказвае вёскі, у якіх на працягу міжваеннага перыяду праз даўжэйшы ці карацейшы час дзейнічалі ячэйкі КПЗБ або КСБМ (камсамола). У беларускіх вёсках сённяшняй Беласточчыны паліцыйныя справаздачы налічваюць звыш 100 такіх ячэек.

Зразумела, нельга цвердзіць, што паліцыйныя дадзеныя адлюстроўвалі якраз фактычны стан КПЗБ. Кампартыя дзейнічала ў глыбокай канспірацыі, прыкладваючы многа сіл на тое, каб яе ячэйкі не знайшліся ў паліцыйных спісках. Тым не менш паліцыйныя справаздачы маюць адну, у гэтым выпадку істотную рысу: дадзеных гэтых у ніякім выпадку нельга лічыць завышанымі. Падавалі яны стан ячэек і членаў больш за ўсё ніжэйшы ад фактычнага. Але нават прымаючы паліцыйныя дадзеныя за праўдзівыя, стаім перад фактам здзіўляючым і захапляючым — аграмаднай, не сустракаемай нідзе ў краіне і мабыць у Еўропе разбудовай рэвалюцыйнай дзейнасці ў нашых вёсках. Апрача вёсак нанесеных на карту спісы паліцыі пералічваюць яшчэ некалькі дзесяткаў вёсак, у якіх існавалі «кантакты» КПЗБ, у якіх кампартыя ўтрымлівала свае ўплывы.

Варта параўнаць стан кампартыі ў міжваенны перыяд у беларускіх вёсках з адпаведным станам у іншых раёнах ваяводства. Падаем стан ад дня 31.XII.1932 года.

| | ячэек | членаў |
|---|---|---|
| г. Беласток | 17 | 99 |
| пав. Беластоцкі | 22 | 129 |
| „ Бельскі | 67 | 600 |
| „ Гродзенскі | 110 | 332 |
| „ Ваўкавыскі | 55 | 325 |
| 9 іншых паветаў ваяводства разам | 39 | 368 |
| Усяго | 310 | 1853 |

Лікі гэтыя заслугоўваюць на асаблівую ўвагу, як паводле сцверджанняў гісторыкаў рабочага руху, кампартыя ў той час на тэрыторыі Польшчы налічвала ўсяго некалькі тысяч членаў.

Хаця ячэйкі кампартыі сустракаем

(Працяг на стар. 4)

У апошніх месяцах друк, радыё і тэлевізія перадалі інфармацыі аб макабрычных злачынствах маладых людзей часта непаўналетніх. З таго можна дайсці да вельмі сумнага вываду, што сітуацыя сярод непаўналетніх, як мы прывыклі гаварыць, трагічная.

Аўтара цікавілі справы Беластоцкага ваяводства і справы вёскі, а ў іх злачынствы непаўналетніх. Хачу адразу падкрэсліць, што міма агульнага ўзросту злачынстваў непаўналетніх трагедыі няма. Неабходна дадаць, што найвялікшая колькасць і груповыя злачынствы аднатоўваюцца ў самым горадзе Беластоку. У горадзе маладыя перад усім крадуць, і то прыватную маёмасць, таму што тут найлепшыя магчымасці. На вёсцы непаўналетнія выступаюць у адзіночку. Іх асноўныя злачынствы — гэта бойкі. Да гэтага істотная ўвага: **інспіратарамі боек, за якія судзяць непаўналетніх, з'яўляюцца людзі ўзрослыя**.

Большасць узрослых думае, што хуліганства — гэта асноўная рыса злачынстваў непаўналетніх. Аказваецца, што ўзрослыя проста забываюць, калі самі былі падросткамі і як самі тады захоўваліся. Хуліганства, калі хто хоча так назваць, выступае сярод непаўналетніх Беласточчыны, але не ў форме злачынства.

Прычыны злачынстваў непаўналетніх агульны ва ўсёй краіне, калі не ў цэлым свеце: асяроддзе, расклад сям'і, п'янства, «ахвота пажыць». У асноўным усе гэтыя прычыны адносяцца да ўзрослых. Чуецца закід у адрас маладых, што не маюць яны свайго жыццёвага ідэалу. Добра ведаем, што добраму вучню ў школе цяжка жыць у калектыве. Яго часта не любяць, насміхаюцца. Але пакажыце мне ідэал узрослага чалавека? Ці часам дзеці не ад нас вучацца не любіць працы, камбінаваць, ашукваць? Ці не наша абыякавасць пераносіцца на іх?

Бездапаможнасць бацькоў з'яўляецца ўсеагульнай з'явай, а вынікае яна з простых прычын: бацькі не цікавяцца дзіцём, пускаюць яго самапасам, а потым аказваецца, што ўжо запозна выхоўваць. Бо хто ж вінаваты таму, што В., сын адукаваных бацькоў, пакінуў раптам школу, не захацеў ісці да працы, а бацьку сказаў, што нічога не будзе рабіць, а той і так мусіць яго




гадаваць. Зараз бацька гаворыць аб сучаснай моладзі не прыпамінаючы, як сыну соваў 100 а нават 500 зл., каб толькі ўсё было ціха. Які суд можа параіць бабулі С., унук якой б'е яе палкаю і граміць памяшканне, калі тая не дасць яму грошай? Да грошай прывучыла сама бабуля, а трэба дадаць. што патрабаванні на грошы ў хлопца пачалі расці. А калі патрабаванняў ужо няма чым абяспечыць, простая дарога непаўналетняга да пакражы, гарэлкі і т.п.

Не зусім зразумелай некаторым з'яўляецца роля суда. Калі сцвярджаецца злачынства непаўналетняга, стараюцца як мага хутчэй аддаць яго пад суд. Гэта вельмі кепская з'ява. Суд павінен разглядаць справу непаўналетняга пры вельмі важных матывах злачынства, або дэмаралізацыі. А чаму кепская з'ява? З той простай прычыны, што суд — гэта найвышэйшы аўтарытэт, і калі дзіця сутыкнулася з ім у 12—15 год, дык тады яму ўжо няма ніякіх аўтарытэтаў.

Калі разыходзіцца аб пакаранне непаўналетніх, дык пэўную навілізацыю ўвёў закон ад 17.VI.1966 г. Гаворыцца ў ім, што суд для непаўналетніх можа пераказаць справу школе або данай арганізацыі, без яе разгледжвання, калі злачынства не перакрочвае сумы 300 зл. У сувязі з гэтым ў школах павінны існаваць грамадска-выхаваўчыя камісіі, якія супольна з судом маюць разглядаць драбнейшыя справы непаўналетніх. Пакуль што гэта толькі існуе ў законах. А добра было б, каб сапраўды стала рэчаіснасцю.

У заключэнні хочацца яшчэ раз падкрэсліць, што калі думаем ці чытаем аб непаўналетніх перад судом, перад усім прычын таго пашукайма сярод сябе — дарослых.

**Аляксей Карпюк**

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### З СЕСІІ ААН

Надзвычайная сесія ААН, скліканая па поваду ізраільскага канфлікта, працягвае сваю працу. Цяжка зараз пісаць аб выніках. Адно можна сказаць, што яна надзвычайная з кожнага боку: таму што сесія разглядае драматычную сітуацыю на Блізкім Усходзе і таму, што спісак дэлегацый паасобных краін багаты. У сесіі ААН прыймае ўдзел 1 шэф дзяржавы, 14 прэм'ер-міністраў, 3 намеснікаў прэм'ер-міністраў, 1 кароль і многа міністраў замежных спраў.

Можна аб надзвычайнай сесіі ААН сказаць і тое, што ўжо ў першыя дні дыскусіі зарысавалася рашучае асуджэнне агрэсара. Велізарная большасць дзяржаў — удзельніц ААН прызнае Ізраіль агрэсарам і што за гэта агрэсар не можа быць узнагароджаны. Характэрна і тое, што ўпершыню ЗША, нягледзячы на свае велізарныя ўплывы і бескампрамісныя націскі, не змаглі прыцягнуць большасці да сваіх думак аб блізкаўсходнім канфлікце.

### НОВЫ ЎРАД ААР

Прэзідэнт Гамаль Абдэль Насер выдаў дэкрэт аб сфарміраванні новага ўрада. Новы ўрад узначальвае прэзідэнт Насер. Намеснікам прэм'ер-міністра назначан віцэ-прэзідэнт Закарыя Мохі эд-Дзін. Былы прэм'ер-міністр краіны Сідкі Сулейман займае ва ўрадзе пасаду намесніка прэм'ер-міністра.

### ЗАКЛІК САМАЛІЙСКАГА ЎРАДА

Урад Самалійскай рэспублікі выступіў за тэрміновае скліканне спецыяльнай сесіі Савета Міністраў Арганізацыі Афрыканскага Адзінства для абмеркавання пытання аб агрэсіі Ізраіля супраць Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі.

### ПАДГОРНЫ—НАСЕР

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Н. Падгорны нанёс візіт прэзідэнту Насеру. Трэба падкрэсліць, што гэта першы візіт шэфа дзяржавы наогул у Егіпт пасля ўзброенага канфлікта.

### ПЛЕНУМ

20 чэрвеня г.г. у Маскве адбыўся Пленум ЦК КПСС. На парадку дня стаялі справы: 1) Аб палітыцы Савецкага Саюза ў сувязі з агрэсіяй Ізраіля на Блізкім Усходзе, 2) аб тэзісах да 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

### ЗАПАЛЬНЫЯ ПУНКТЫ

Адэн — 138.000 жыхараў; 194 квадратных кіламетраў плошчы, 1.191 жыхар прыпадае на адзін кв. кіламетр. Адэн з'яўляецца брытанскай калоніяй, якая ў 1969 годзе павінна атрымаць незалежнасць. Зараз вядзецца там інтэрвенцыя брытанскай арміі супраць народнавызваленчай барацьбе насельніцтва Адэна.

**АК**

## БССР

### БЕЛАРУСКАЯ

У надзвычайнай спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, скліканай па ініцыятыве Саюза ССР, удзельнічала дэлегацыя Беларускай ССР на чале са старшынёй Савета Міністраў Беларускай ССР, Ц. Кісялёвым.

### ЛКСМ БЕЛАРУСІ

Адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Ленінскага камуністычнага саюза моладзі Беларусі. Пленум абмеркаваў дзейнасць камсамольскай арганізацыі Брэсцкай вобласці па выкананню рашэнняў XV з'езда ВЛКСМ і XXIII з'езда ЛКСМ Беларусі. З дакладам выступіў першы сакратар Абласнога камітэта камсамола А. Сакалоўскі.

У камсамольскіх арганізацыях вобласці наглядаецца больш дзелавітасці, канкрэтнасці, ініцыятывы. Датычыць гэта м.ін. камсамольскіх арганізацый Пінска, Пружанаў, Кобрына, Баранавіч.

З прамовай на пленуме выступіў першы сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі Г. Жабіцкі.

### КАРЭЙСКАЯ

Дэлегацыя Вярхоўнага народнага сходу Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі на чале з членам Палітбюро ЦК Працоўнай партыі Карэі Лі Ен Хо наведала сталіцу Беларусі, горад Мінск. Разам з дэлегацыяй прыбыў карэйскі пасол у СССР Кім Чун Вон.

Дэлегацыю сустрэлі кіраўнікі Беларускай Рэспублікі: сакратар ЦК КП Беларусі Д. Філімонаў, Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Я. Скурко (Максім Танк), віцэ-прэм'еры А. Золаў і І. Клімаў, і іншыя асабістасці, адказныя працаўнікі Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, і Міністэрства замежных спраў БССР.

### СЕМІНАР

Савет Міністраў Беларускай ССР правёў чатырохдзённы семінар старшынь выканаўчых камітэтаў раённых і гарадскіх Саветаў дэпутатаў працоўных. На семінары з лекцыямі і дакладамі выступілі першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Лабанок, старшыня Камітэта народнага кантролю БССР А. Смірноў, пісьменнік А. Кулакоўскі, — які расказаў аб сучаснай беларускай літаратуры, — старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі пры Савеце Міністраў БССР У. Пятроў і шмат іншых дзеячаў і кіраўнікоў паасобных галін жыцця БССР.

На семінары вялікую прамову меў Ц. Кісялёў, Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР.

### КАМІСІЯ

Адбылося пасяджэнне Пастаяннай камісіі па культурна-асветнай рабоце Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб рабоце мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных Магілёўскай вобласці па ўвекавечанню памяці воінаў Савецкай Арміі і партызан, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

**(С. Я.)**

## ПОЛЬШЧА

### VI КАНГРЭС ПРАФСАЮЗАЎ

24 чэрвеня г.г. закончыў шасцідзённыя пасяджэнні VI кангрэс прафсаюзаў. Кангрэс зацвердзіў праграму дзейнасці прафсаюзаў на 1967—1970 гады, а таксама падняў пастанову ў справе дзейнасці сярод працоўнай моладзі. Кангрэс выбраў цэнтральныя ўлады прафсаюзаў — Цэнтральны савет прафсаюзаў і Цэнтральную рэвізійную камісію. Старшынёй Цэнтральнага савета прафсаюзаў выбраны паўторна Ігнацы Лёга-Савінскі. Кангрэс выслаў ліст да I сакратара ЦК ПАРП Уладзіслава Гамулкі і аб'явіў заклік да прафсаюзных арганізацый усёй Еўропы.

### РЭЗАЛЮЦЫЯ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства кляймуе агрэсію Ізраіля і агрэсіўную палітыку ўрадаў ЗША і Вялікабрытаніі ў адносінах да арабскіх дзяржаў.

Польскія беларусы, якія ў часы апошняй вайны, накінутай гітлераўскай Германіяй, перажылі супольна з палякамі і яўрэямі трагедыю фашысцкага панавання, якія, не шкадуючы жыцця і крыві, змагаліся са зброяй у руках з гітлераўскім акупантам, ведаюць, што гэта значыць агрэсія.

Нам чужое паняцце нацыяналізму. Мы ганарымся, што ў радах нашых найбольш прагрэсіўных арганізацый былі таксама палякі і яўрэі, якія змагаліся супольна з намі за роўныя правы для нас. Найлепшым доказам гэтага з'яўляюцца слаўныя традыцыі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

Поўнасцю падтрымліваем мы палітыку ўрада ПНР і салідарызуемся з імкненнем справядліва вырашыць блізкаўсходні канфлікт.

Беласток, 23.VI.1967 г.

## ВАЯВОДСТВА

### МІТЫНГ

У прыгранічнай аколіцы каля Ялоўкі адбыўся шматтысячны мітынг дружбы працоўных нашага ваяводства і Гродзеншчыны. Падрабязна аб гэтым мітынгу напішам у наступным нумары «Нівы».

### ПРАТЭСТЫ

У фабрыках ды ўстановах Беласточчыны адбываюцца мнагалюдныя мітынгі пратэсту супраць агрэсіі Ізраіля.

### ФЕСТЫВАЛЬ

У Беластоку адбыўся агульнапольскі фестываль мастацкіх гурткоў Унутраных Войск. Першае месца здабыў мастацкі гурток Падляшскай часці Унутраных Войск, які атрымаў узнагароду віцэ-міністра абароны, Галоўнага інспектара тэрытарыяльнай абароны Краіны.

Ва ўрачыстым заканчэнні фестывалю прыняў удзел шэф Палітычнага упраўлення Унутраных Войск — палкоўнік Ян Паплаўскі, а таксама прадстаўнікі ваяводскіх і гарадскіх улад на чале са старшынёю ганаровага камітэта фестывалю, сакратаром Ваяводскага камітэта ПАРП — Вітальдам Мікульскім.

### НАПРАМКІ

Адбыўся пленум Ваяводскага камітэта ПАРП, у якім удзельнічаў кіраўнік Аддзела прапаганды і агітацыі ЦК ПАРП Леан Стасяк. Даклад наконт актуальных задач і напрамкаў палітычнай дзейнасці ваяводскай партыйнай арганізацыі меў першы сакратар Ваяводскага камітэта партыі — Аркадзь Лашэвіч. Дакладчык м. ін. сцвердзіў, што лік членаў і кандыдатаў у члены партыі на Беласточчыне дасягнуў 51 тыс.

У дыскусіі выступалі м. ін.: Уладзімір Міхалюк, першы сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Бельску, Ян Баркулак, першы сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Дуброве.

### БЕЛАСТОЦКАГА

Адбыўся пленум Беластоцкага гарадскога Камітэта партыі прысвечаны справам гарадскога будаўніцтва. Нягледзячы на пэўныя дасягненні ў галіне будаўніцтва, план пяці месяцаў выкананы ўсяго ў няцэлых 95 працэнтах. Нявыкарыстана шмат інвестыцыйных сродкаў. Напрыклад, у Беластоцкім прадпрыемстве гарадскога будаўніцтва нявыкарыстана каля сямі мільёнаў зл.

Пленум прыняў адпаведную пастанову.

### КАНІКУЛЫ

У школах Беласточчыны адбылося ўрачыстае заканчэнне навучальнага 1966/67 года. Пачынаецца доўгачаканае лета і канікулы. Каля васьмі тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак выедзе ў летнія гарцэрскія лагеры.

У гарцэрскіх летніх лагерах Беласточчыны пабываюць піянеры з Беларусі і Літвы, а нашы гарцэры выедуць у піянерскія лагеры гэтых дзвюх суседніх рэспублік.

**(С. Я.)**




**Niedziela 2.VII.**

9.35 Program dnia. 9.40 „Przedmieście Leningradu". 10.15 „Przypominamy, radzimy". 10.25 „Mądrość wieków" — film („Egipcjanie"). 11.20 „Kryształ ze Stambułu" — film fab. CSRS. 12.00 Dziennik. 12.10 Poranek muzyczny. 13.00 „Nauka jazdy" — film („Czarownice"). 13.25 „Przemiany". 14.00 Teatrzyk w Koszu. 15.00 TURNIEJ MIAST: „Zawsze w niedzielę" — Kołobrzeg — Świnoujście. 17.20 „Teatrzyk Eryka Lipińskiego". 18.00 Sprawozdanie sportowe. 20.00 Dobranoc. 20.10 Dziennik. 20.40 „Podróż nie z tej ziemi" — film fab. jugosł. 22.25 Niedziela Sportowa.

**Poniedziałek, 3.VII.**

17.25 Dziennik. 17.30 „Dzieci i morze" — film NRD. 17.50 „Na morskich szlakach". 18.15 „Spacerkiem po kinach". 18.45 „Eureka". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Przerwana podróż". 20.25 IV TV FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: J. Szaniawski — „Kowal, pieniądze i gwiazdy". 22.05 Dziennik.

**Wtorek, 4.VII.**

10.00 „Dworek czterech dziewcząt" — film fab. węg. 17.15 „Telekram". 17.25 Dziennik. 17.30 Tele-ferie: 1) „TV Kronika Podwórkowa"; 2) film „Robin Hood"; 3) „Turniej o Żółtą Żyrafę". 18.50 „Gawędy o współczesności". 19.05 TV Kurier Warszawski. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników". 20.30 „Dworek czterech dziewcząt" — film fab. węg. 22.00 „Klaps". 22.30 Dziennik.

**Środa, 5.VII.**

10.00 „Szczęście w teczce" — film fab. jug. 17.00 Dziennik. 17.05 PKF. 17.15 „Nie tylko dla pań". 17.35 „Miasto żyjące z morza". 18.05 „Studio u nas". 18.45 Wszechnica TV: „Pejzaż: miasto". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Pod znakiem jakości". 20.35 „Poste restante" — film tv („Podziemny front"). 21.00 „Światowid". 21.30 „Człowiek z blizną" — film tv USA cz. II. 22.20 Dziennik.

**Czwartek, 6.VII.**

17.25 Dziennik. 17.30 „Na zdrowie". 17.50 „Zamki węgierskie" — film węg. 18.05 „Kiedy trzeba podjąć decyzję". 18.30 „Wiem wszystko" — teleturniej. 19.05 „Turenia" — film fr. („Zakątki Francji"). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Po szóstej". 20.45 Teatr Sensacji: A. Wydrzyński — „Ostatnia szansa" odc. III („Pocztówka z Buenos Aires"). 21.45 Dziennik.

**Piątek, 7.VII.**

10.00 „Duszeńka" — film fab. radz. 17.25 Dziennik. 17.30 Tele- ferie: 1) „Klub pod Smokiem"; 2) film „Robin Hood"; 3) „Pierwsza Pomoc Wakacyjna". 18.45 Wszechnica TV: „Wieczory w Jabłonnie". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 TV Kurier Mazowiecki. 20.20 „Duszeńka" — film fab. radz. 21.35 „Refleksje". 22.05 Dziennik.

**Sobota, 8.VII.**

10.00 „Dobranoc, mecenasie" — film fab. wł. 16.15 Program tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Sprawozdanie sportowe. 18.30 „Tele-Echo". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.05 „Powojenny kabaret polski" — rozrywkowy konkurs miast. 21.50 Dziennik. 22.05 Wiadomości sportowe. 22.15 „Dobranoc, mecenasie" — film. fab. wł.




**30 czerwca**

9.00 Dziennik. 9.15 Dla uczniów. 14.40 Program. 14.45 Dziennik. 14.50 Dla uczniów. 15.20 „Republika dzieci" (Krym). 16.00 Dziennik. 16.20 „Mówią sztandary". 16.50 Teatr literacki. P. Pawlenko. „Szczęście". 18.10 „Sztafeta nowin". 19.00 „Na dzikim brzegu". Film. I seria. 20.15 "Turniej ciekawych". 20.45 „W świecie tańca".

**1 lipca**

13.20 Program. 13.25 Dziennik. 13.30 Dla dzieci. 13.50 Wystąpienie zastępcy przewodniczącego Sztabu obrony obywatelskiej BSRR. 14.10 „Od Lutego do Października". 14.25 „Zdrowie". 15.00 Uroczyste otwarcie Spartakiady narodów ZSRR. 16.45 Dziennik. 17.00 Wszechzwiązkowy festiwal twórczości amatorskiej. 20.30 „Na dzikim brzegu". Film. II seria.

**2 lipca**

11.10 TV spektakl dla dzieci. 11.50 Kronika filmowa. 12.30 „Bohaterowie lat płomiennych". Marszałek Związku Radzieckiego K. K. Rokosowski. 13.10 Dziennik. 14.00 „Rewolucyjny marsz nauki". 14.20 „Blaski i cienie". 14.45 Koncert życzeń dla byłych żołnierzy i partyzantów, którzy wyzwalali Białoruś. 15.20 „Zegar stanął o północy". Film. 17.00 Wszechzwiązkowy festiwal twórczości amatorskiej. Po koncercie reportaż z uroczystego otwarcia IV jubileuszowej spartakiady BSRR.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ №103




Са святкаваннем 900-годдзя сталіцы Беларусі — Мінска неадрыўна звязана і важная падзея ў музычным жыцці гэтага горада. Пасля капітальнага рамонту, перабудовы і ўвядзення навейшых сучасных дасягненняў, адчыняецца Вялікі тэатр оперы і балета. Гэты прыгожы будынак узвышаецца над панарамай горада і разам з прыгожай філармоніяй з'яўляецца цэнтрам музычнай культуры Беларусі. У час апошняй перабудовы тэатр атрымаў вельмі добрае тэхнічнае абсталяванне сцэны і дапаможных тэатральных пакояў, а таксама вельмі паправіўся эстэтычны бок і выгоднасць залы, фае, вешалак і буфетаў.

Таму новы сезон у мінскім оперным тэатры абяцае быць вельмі цікавым. Побач з сусветнай і рускай套 опернай літаратурай, а таксама з творамі беларускіх кампазітараў у плане прадугледжана прэм'ера балета сучаснага польскага кампазітара Адама Свяжыньскага «Бурштыновая панна».

У сувязі з набліжэннем урачыстага адкрыцця перабудаванага Вялікага тэатра ў Мінску, давайце коратка прыпомнім гісторыю беларускага музычнага тэатра.

Зародкі яго ляжаць вельмі глыбока і сёння цяжка ўжо акрэсліць гэтую дату. Маглі гэта быць як народныя прадстаўленні беларускіх аматарскіх калектываў, так і выступленні шматлікіх прафесіянальных труп, якія, вандруючы па гарадах Беларусі, давалі музычныя прадстаўленні, граючы рознага роду вадэвілі, меладрамы, музычныя камедыі, пазней таксама і аперэткі, оперы і балеты.

Гістарычным момантам у гісторыі беларускай музыкі была Кастрычніцкая рэвалюцыя. 50 год назад адсталая ў часы царызму Беларусь уступае ў перыяд дынамічнага развіцця ва ўсіх галінах жыцця, а значыць, і ў галіне музычнай культуры.

На пачатку дваццатых гадоў узнікаюць у Мінску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску і Магілёве музычныя школы, пачынаюць расці ўласныя, беларускія музычныя кадры. Адначасова ўсё часцей у гэтыя гарады пачынаюць заглядаць прафесіянальныя калектывы з Масквы, Ленінграда і Кіева, даючы захапляючыя балетныя і оперныя прадстаўленні. Гэта таксама мае вялікае значэнне для ажыўлення і развіцця музычнага жыцця Беларусі.

Школьныя калектывы, г. зн. хутчэй аматарскія, аднак узмоцненыя сіламі прафесіянальных акцёраў і музыкантаў у палавіне дваццатых гадоў ставяць першы раз оперу Гуно «Фаўст», «Сівільскі цырульнік» — Расіні, а таксама «Русалку» — Даргамыжскага. Важнай падзеяй у гісторыі беларускага опернага тэатра была прэм'ера ў 1924 годзе першай савецкай беларускай оперы «Вызваленая праца» Мікалая Чуркіна. Гаворачы аб барацьбе рабочага класа, опера была спробай музычнага прадстаўлення падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Ажыўленую дыскусію выклікала эстраднае выкананне ў 1927 годзе аднаактавай камічнай оперы Мікалая Аладава «Тарас на Парнасе» — сатыры на цемнату і адсталасць. У гэтай оперы кампазітар выкарыстаў матывы шматлікіх беларускіх песень і танцаў. Ва ўзнікаючых трошкі пазней беларускіх операх, такіх, як «Кветка шчасця» Аляксея Туранкова і «Міхась Падгорны» Яўгеня Цікоцкага таксама можна ўлавіць беларускія народныя матывы.

У 1925—33 гадах беларускія оперы або іх урыўкі выконваюцца пераважна на эстрадзе, але з'яўляюцца доказам жывучасці і развіцця беларускай музыкі.

Гістарычным момантам у гісторыі беларускага опернага тэатра з'яўляецца дзень 23 мая 1933 года. Бо ў гэты дзень адкрываецца першы ў Беларусі Вялікі тэатр оперы і балета. Пачынаецца новы, важны этап у беларускай музыцы. Вялікі тэатр становіцца любімым дзецішчам партыйных і дзяржаўных улад. Маладому опернаму тэатру дапамагаюць братнія оперныя тэатры Масквы, Ленінграда і Кіева, узмацняючы яго сваімі артыстамі, дырыжорамі, салістамі хору і балета, рэжысёрамі і пастаноўшчыкамі, якія разам з хуткарастучымі ўласнымі, беларускімі кадрамі даюць ўсё лепшыя, усё больш вартасныя і цікавейшыя прадстаўленні. На афішах паяўляюцца яшчэ перад вайной творы Чайкоўскага «Яўгеній Анегін» і «Пікавая дама», Рымскага-Корсакава «Царская нявеста», Барадзіна «Князь Ігар», Даргамыжскага «Русалка», Івана Дзяржынскага «Ціхі Дон», а таксама шэраг твораў заходнееўрапейскай опернай класікі, а ўпершую чаргу, варта гэта падкрэсліць, творы беларускіх кампазітараў, як успамянутыя ўжо вышэй «Міхась Падгорны» Цікоцкага і «Кветка шчасця» Туранкова, а таксама «У пушчы Палесся» Анатоля Багатырова.

Гады другой сусветнай вайны затрымліваюць дзейнасць Вялікага тэатра ў Мінску, але беларускія кампазітары пішуць новыя оперы. Цікоцкі стварае оперу «Алеся», Дзмітрый Лукас — оперу «Кастусь Каліноўскі», а Мікалай Чуркін — «Песню Беразіны», — пастаўленыя ў 1947 годзе.

Пасля вайны пачынаецца ажыўленая дзейнасць Вялікага тэатра ў Мінску. У яго рэпертуары з'яўляюцца новыя творы рускай і сусветнай класікі, ставіцца з вялікім поспехам «Страшны двор» Манюшкі, жыццё і юнацкая творчасць якога звязаны былі з Беларуссю і Мінскам. Мы ўжо пісалі аб тым, што юнацкія творы Манюшкі «Рэкруцкі набор» і «Сялянка» ішлі ўжо ў Мінску.

Атрыманне ўласнага, стаячага на высокім узроўні опернага тэатра яшчэ больш актывізуе творчасць беларускіх кампазітараў. Для свайго тэатра пішуць Багатыроў («Надзежда Дурава»). Туранкоў («Яснае світанне»), Семяняка («Калючая ружа»), Крошнер («Салавей» і «Купальская ноч»), Генрых Вагнер («Прададзеная нявеста» і «Святло і цені»), Глебаў («Мары»). Цяпер, як мяне паінфармавалі ў Саюзе кампазітараў Беларусі, новыя оперы пішуць Глебаў, Лукас, Вагнер і іншыя.

Такім чынам перабудаваны, цяпер вельмі сучасны Вялікі тэатр оперы і балета ў Мінску стане далейшым крокам на шляху развіцця беларускага музычнага тэатра.

**МАР'ЯН ФУКС**

**На здымку: Опера Вердзі «Бал-маскарад». Адна з масавых сцэн фінала спектакля ў пастаноўцы Беларускага тэатра оперы і балета.**

ІВАН ЧЫКВІН

## ГІСТОРЫЯ З МАСТАКАМІ

**Неран:** імператар, распусны і бязлітасны, з мастацкімі схільнасцямі, праследваў хрысціянаў — падпаліўшы Рым, жыццё закончыў самагубствам.

**Гітлер:** фюрэр, бязлітасны ў дасягненні мэты, з мастацкімі схільнасцямі праследваў не-германскія расы — падпаліўшы свет, жыццё закончыў самагубствам .

★ ★ ★

Ноч.
Зрываемся са сну.
Вязуць... у Рым
глядзець
на гладыятарства.

Трыбуны поўны,
а там сам Неран
сядзіць як поўнач
змучаны нервамі.

З нуды і гора
бесцырымонна
і бясконца
абрывае з лімонаў
старажытнае сонца.

Хлеба і іграў
глядзець ён не хоча,
што ў гісторыі выйграў —
нагамі топча.

Як быццам кавырае
у сонцы кінжалам —
цёмная зграя
Рым топіць у пажары.

З сэрца цячэ
асалода з атрутай, —
Неран жывы яшчэ.
Неран ў пакуце.

Кругом ратазеі,
як партызаны,
ідуць ў Калізей,
чакаюць да рана.



Нерану ўмерці,
ён не апраўдан —
выносяць са смерцю
тырана.

URBI et ORBI
Рымлянам, Зямлянам!
Memento mori,
Помніце раны!

Зноў адраджаецца
колам схаластыкі
чорная зграя
з-пад знаку схвастыкі

неранаў, гітлераў
усё ёсць наследнікі
і нельга іх вытравіць...
але мы не бязсільныя,
але мы не бедненькі!

Грымнем жа ж дружна
пралетарыята горлам —
Мы свет акружым
дабром на добра.



 

# ЯЧЭЙКІ КПЗБ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

(Працяг са стар. 1)

ва ўсіх паветах даваеннай Беласточчыны, толькі ва ўсходніх паветах сустракаем іх на вёсцы. Залучаная карта паказвае заходнюю і паўночную мяжу вёсак, у якіх выступала дзейнасць камуністаў. Не сягала яна далей чымсьці мяжа праваслаўнага веравызнання, з даволі дакладнай прыблізнасцю можна сказаць, што пакрывалася з мяжою веравызнанняў. У адносінах да вёсак заходняй часткі ваяводства справаздачы паліцыі гаварылі:




«У частцы заходняй ваяводства з польскім адносна багатым і глыбока рэлігійным насельніцтвам, з вельмі моцна разбудаванай сеткай каталіцкіх арганізацый, дзейнасць, уласцівая для гэтай тэрыторыі, КПП вельмі слабая (...). Калі ж разыходзіцца пра вёску, рэзультаты дзейнасці КПП не заслугоўваюць на якую-небудзь агаворку».

Асабліва цікавай з гэтага боку з'яўляецца тэрыторыя сённяшняга Сакольскага павета. Тэрыторыю гэту засяляе насельніцтва адной этнічнай культуры — беларусы. Рознае яно аднак з увагі на веравызнанне. І тут, як і ў іншых паветах, ячэйкі КПЗБ узнікалі выключна ў асяроддзях праваслаўных.

З замешчанай карты відаць яшчэ адну цікавую з'яву: не ўсе праваслаўныя аколіцы былі ў аднолькавай ступені прасякнуты рэвалюцыйнай дзейнасцю. На карце існуюць выразныя белыя плямы. Такімі з'яўляюцца аколіцы Ласінкі, вёскі паабапал верхняй Нарвы аж да асады Нарвы, а таксама вёскі сённяшняга Дуброўскага павета. Цікава было б прасачыць, ці слабасць арганізацыйнага развіцця КПЗБ у гэтых ваколіцах звязана была з нейкімі істотнымі ўмовамі жыцця, ці была вынікам другарадных арганізацыйных прычын.

**Ул. Паўлючук**

**З ЦЫКЛА: РАЗМОВЫ АБ КУЛЬТУРНЫМ ЖЫЦЦІ.**




**Васіля Кардзюкевіча** Беласточчына ведае. Найперш з працы ў школьным інспектарацe, потым з беларускай «Лявоніхі», якой кіраваў.

Пасля падарожжа па розных працах Васіль вярнуўся ў родную вёску Аўгустова, каля Бельска. Пачаў працу ў школе. З'яўляецца кіраўніком.

Мы аднак не аб школе цяпер. А аб тым, што ў Аўгустове дзеецца побач школы, пры Васілю Кардзюкевічу.

Аўгустоўскі драматычны гурток вырас, як грыб пасля дажджу. Хутка. Як пачалося? Васіль, раскажы.

— Нашы жанчыны калісьці арганізавалі гурток гаспадынь. Займаліся сваімі тыповымі абавязкамі: конкурсы, навука гатавання. У мінулым годзе звярнуліся да мяне, каб арганізаваць драмгурток.

— Жанчыны, значыць, далі ініцыятыву?

Васіль лёгка ківае галавою ў знак нібы згоды і дапаўняе:

— Калісьці існаваў тут ужо гурток. У ім прымалі ўдзел і мужчыны. Тыя ж, і іншыя, прыйшлі і цяпер.

Гляджу дзённік, які вядзецца ў драмгуртку, па якім вядуцца і занят-кі. Ага, заняткі. Яны тут, у гэтым гуртку адбываюцца сапраўдныя і вельмі карысныя.

Васіль падае план. Чытаю, потым важнейшыя тэмы запісваю:

**Літаратурная беларуская мова і мясцовыя дыялекты.**

**Беларуская народная творчасць.**

**Кароткі зарыс гісторыі Беларусі.**

**Беларуская літаратура даўней і сёння.**

**Узаемныя ўплывы і супольная барацьба беларусаў і палякаў.**

**Беларусы ў Польшчы.**

**Роля БГКТ у развіванні беларускай культуры. Выдавецтвы.**

**Праграма заняткаў прадбачвае галоснае чытанне п'ес, размовы аб беларускім тэатры, ролі і значэнні аматарскага руху, вучыць мастацкаму чытанню вершаў, так званая рэцытацыя, вядзе размовы аб кніжцы, акцёрскай ігры і г.д.**

Пастанавіла, што вось больш напішу аб гэтым, бо так пастаўленая праца ў драмгуртку выдаецца мне слушнай і напэўна дасць добрыя вынікі.

— Але скажы яшчэ, Васіль, ці «Гарадскія госці» і «Конская кніжка» — гэта вашы першыя пастаноўкі?

— Першыя. Мы іх разам рыхтавалі.

— І як думаеце, ставіце іх толькі для сябе, ці...?

— Хацелі б іх прадаць. Людзі напрацаваліся і добра было б арганізаваць цяпер серыю выездаў у аколіцу. Добра было б, каб арганізацыяй, не толькі зрэшты ў нас, заняўся павятовы інструктар Таварыства. Добра было б, каб быў нейкі павятовы план выступленняў аматарскіх гурткоў.

— А за грошы, якія зарабілі б?

— Мы б купілі музычныя інструменты. Хочам пашырыць формы працы, стварыць хор, інструментальны калектыў.

— Віншую замыслу. А яшчэ назавем галоўных герояў твайго гуртка, які ўжо існуе.

— **Рыгор Кардзюкевіч** — мой брат, **Юлія Анацік, Іван Заброцкі** — чалавек мае сярэднюю агульную адукацыю, а працуе, і добра, на гаспадарцы, **Рыгор Навіцкі, Вера Вышкоўская, Надзя Верамеюк...** Гэта людзі, якія выконваюць галоўныя ролі ў дзвюх нашых п'есах.

— Ты, здаецца, Васіль, са сваімі людзьмі зробіш з Аўгустова большы культурны цэнтр, чым блізкі Бельск?...

**Вера Леўчук**

І так, і не. Замала цэглы — гэта факт. Наша «тэрэновая» прамысловасць, як кажуць, не стаіць на вышыні задач. А ў справе прадукцыі цэглы дык увогуле цяжка гаварыць аб тым, што гэта прамысловасць «стаіць» — хутчэй за ўсё, «ляжыць». Дзіўна, што ў нашых аколіцах, дзе столькі гліны і таму падобнага дабра, ёсць так вялікі недахоп цэглы.

# ЦІ БЯДА З БУДАЎЛЯНЫМІ МАТЭРЫЯЛАМІ

Нашы вёскі зусім саламяныя і драўляныя. Беластоцкія ўлады пачалі старацца змяніць гэты непахвальны выгляд нашых вёсак. І так, напрыклад, Бельскі павет атрымоўвае сёлета амаль дзесятую частку ўсіх запасаў цэглы прызначанай для цэлага дваццаціпавятовага Беластоцкага ваяводства. Мала менш атрымоўвае і Сямяцікі, і Беластоцкі паветы. У гэтым месцы варта падаць адзін прыклад: Элцкі павет атрымоўвае ўсяго сотую частку цэглы.

Столькі можна сказаць аб бядзе з цэглаю. Іншых будаўляных матэрыялаў ужо ёсць напраўду ўдосталь — цэменту, нелясаванай вапны, прэфабрыкаваных бэлек, дахоўкі, этэрніту. Калі дзе ў якім павеце чаго няма з гэтых рэчаў, то толькі таму, што мясцовыя начальнікі страшэнна непаваротлівыя альбо ўжо вельмі любяць, каб гаспадар кланяўся ім за кожнае глупства...

Хлявы можна будаваць з пустакоў: цэмент ёсць, а на недахоп пяску хіба не можам наракаць мы, жыхары пагоркаватых, лясных ды пясчаных аколіц. Справа ў тым, што пустакі ўжо многія робяць самі, без нічыёй ласкі, а ў кожным ГС-е ці нават большым сельскагаспадарчым гуртку ёсць формы да вырабу пустакоў. Формы гэтыя можна пазычыць, зразумела плацячы за пазычанне. Плата ірундовая.

Так коратка выглядае бяда з будаўлянымі матэрыяламі. (С.Я.)




Чэрвеньскі дзень як бы дадаў прыгажосці Крынкам, што ў Сакольскім павеце. Вельмі прыемна пасядзець у маладзенькім, але чысценькім, скверыку, што распалажыўся пасярэдзіне Крынак. Але каля абеда сонца на толькі прыпякае, што даўжэй аставацца ў скверыку немагчыма. Ахвота памачыцца ў вадзе. Пытаю прахожых, ці няма тут нейкага месца з вадой, дзе б можна было змыць крыху гарачыню. Людзі ўсміхаюцца іранічна, гаворачы:

— А дзе там, у Крынках толькі думаюць пра тое, каб сарганізаваць такое месца.

Маё пытанне сапраўды неяк мяне збянтэжыла, але з другога боку падбадзёрыўся я тым, што зусім падобныя да Крынак Кляшчэлі, у Гайнаўскім павеце, даўно маюць пабудаваны чынам купальны басейн.

— Ці Крынкі чым-небудзь горшыя? — звяртаюся з пытаннем да старшыні ГРН **Тацяны Кірэйчук.**

— Што вы не маеце дзе абмыць поту ў Крынках — гэта паўбяды, усё ж вы тут бываеце рэдка. Але мы маем праблему з нашай крынкаўскай моладдзю, якая зараз з'едзецца на канікулы, а тут нават няма дзе жабе ногі памачыць. У нас усё ж больш істотная справа: перш за ўсё хочам Крынкам даць пажарны басейн.

Сапраўды, працы пры пабудове пажарнага басейна ў Крынках пры Касцельнай заавансаваныя. Кошт яго вынясе каля 160 тысяч злотых. Чынам крынкаўцы выканаюць працу на суму каля 75 тыс. зл. Гэтая сума зусім рэальная, таму што яны самі будуць рабіць пліты і залівань бетонам дно. Да гэтых прац перад усім ангажуецца моладзь, якая мае надзею, што **ўлады пойдуць і ёй на руку ў пабудове так патрэбнага купальнага басейна**.

А сапраўды, **ці не варта было б спалучыць пажарны басейн з купальным басейнам?** Гэта ж будзе каштаваць нэ многа танней, таму што прылучацца ўсе зацікаўленыя ўстановы і арганізацыі. «Адстойнік», які зараз афіцыяльна з'яўляецца перашкодай у пабудове купальнага басейна, у хуткім часе мусіць быць пабудаваны мясцовай гарбарняй, а калі так, дык тады да яго можна прылучыць і басейн. Зараз жа неабходна ўсё рабіць пры пажарным басейне, каб у будучыні быў ён купальным басейнам. Напэўна гэта будзе карысна самім крынкавянам і тым, хто час ад часу прыязджае сюды, каб палюбавацца прыгранічным гарадком.

(ак)




**ТАЙНЫЯ АГЕНТЫ БЕЛАГА ДОМА**

Восенню 1963 года тэлефонны нумар Белага дома быў усё яшчэ «Нэшнл — 8-1414», і, калі гаспадар знаходзіўся ў сябе, туды можна было лёгка дазваніцца. Але становішча адразу мянялася, як толькі кіраўнік урада падымаўся ў паветра на верталёце. Тады пачынаў дзейнічаць складаны механізм забеспячэння бяспекі, і замест імён ужываліся своеасаблівыя псеўданімы, якія час ад часу змяняліся гэтак жа, як і пэўныя групы літар. Той, хто называўся ў лістападзе Портэрам (П), стanавіўся Суперам (С), потым Рыверам (Р). Белы дом быў ужо не Белым домам, а замкам, і калі прэзідэнт быў у паездцы, яго месцазнаходжанне называлася ўмоўна «чакоўл» (драўляны вугаль). Ён сам быў ужо не Джонам Ф. Кенедзі, а Рыцарам, быў жанаты з Лейс (карункі), дачка якой называлася Лірыкай, а сын — Ларкам (гарэзам). Імёны першай сям'і краіны пачыналіся з літары Л, а бабуля Лірыкі і Ларка жыла ў Джорджтауне, які называўся Гамлетам.

Імёны целаахоўнікаў пачыналіся з літары Д. Рой Келерман называўся Дайджэстам; Клінтан Хіл — Дэзлам: Флойд Борынг — Дзіканам; Поль Лэндыс — Дэбютам. Лін Мерэдзіт, Боб Фостэр і Том Уілс, целаахоўнікі дзяцей, мелі мянушкі Драмер, Дрэсер і Дэшэр. З літары «W» пачыналіся імёны саветнікаў і памочнікаў прэзідэнта. Кен О'Донел, першы васал Рыцара, называўся Уэндам; Эвелін Лінкальн — Уілоў; П'ер Сэлінджэр — Уэйсайдам. Макілдафа, які ў час паездкі павінен быў выконваць абавязкі Уэйсайда, ахрысцілі Уэрыорам, а генералы Кліфтан і Макх'ю атрымалі імёны Уотчмэн (вартаўнік) і Уінг (крыло). Афіцэр сувязі ВМС Тэйзуэл Шэпард, якому ў адсутнасць гаспадара дома належала ахоўваць замак, называўся Уітнес (сведка).

Літара «V» была пакінута за віцэ-прэзідэнтам і яго сям'ёй. Ліндан Джонсан называўся Воланцір (добраахвотнік), лэдзі Бэрд («божая кароўка» — Рэд.), якой з імёнамі ніколі не шанцавала, велічалася Вікторыяй (пераможцай).

Госці Вашынгтона, якія меркавалі, што дом прэзідэнта заўсёды знаходзіцца на Пенсільванія авеню, 1600, памыляліся, Белы дом быў там, дзе знаходзіўся Рыцар, і, калі ён выязджаў, галоўны тэлефонны вузел ва ўсходнім падвале Белага дома ператвараўся ў джунглі з рознакаляровых правадоў, якія былі падуладныя толькі ўзводу сувязі, які абслугоўваў Белы дом.

Верталёт № 1 дасягнуў базы ВПС у Эндрусе і прызямліўся побач з прыгожым, вычышчаным да бляску самалётам № 1. Бацькі абнялі маленькага Джона. «Я паеду з вамі», — папрасіў ён бацьку. «Не, табе нельга», — сказаў прэзідэнт ласкава. Хлопчык расплакаўся. Прэзідэнт у апошні раз пацалаваў сына і пагладзіў яго дрыжачыя пад дажджавіком плечыкі. Потым паглядзеў на целаахоўніка дзяцей і сказаў: «Ахоўвайце Джона, містэр Фостэр».

Раніцай 21 лістапада, у той самы дзень, калі прэзідэнт Кенедзі накіраваўся з Вашынгтона ў Тэхас, на вуліцах буйнага тэхаскага горада Даласа прахожым раздалі 5 тысяч лістовак. На кожнай лістоўцы былі надрукаваны дзве фатаграфіі Кенедзі: адна ў фас, другая ў профіль — так, як гэта робіць паліцыя, публікуючы аб'явы аб росшуку злачынца з указаннем яго прыкмет. У загалоўку гаварылася. «Адшукваецца дзяржаўны злачынец». Ніжэй быў тэкст: «Гэты чалавек адшукоўваецца з прычыны яго дзейнасці. якая з'яўляецца дзяржаўнай здрадай і наносіць шкоду Злучаным Штатам». Затым ішлі сем пунктаў з абвінавачваннямі супраць прэзідэнта, якія толькі можна было выдумаць — падыходзячы матэрыял для ўсіх, хто ненавідзеў Кенедзі, ці будуць гэта крайне правыя ці крайне левыя.

Вядома, можна і перабольшваць значэнне гэтай лістоўкі. Паміж яе складальнікамі і забойцамі прэзідэнта не было сувязі, а ворагі Кенедзі ў Даласе і без таго кіпелі ад лютасці. У сярэдняй школе «У. — Е. Грэйнер» было аб'яўлена, што навучэнцы, якія жадаюць пагледзець на праязджаючую аўтакалону прэзідэнта, могуць прапусціць заняткі толькі ў тым выпадку, калі за імі спецыяльна зойдуць у школу бацькі. Адна з настаўніц школы пайшла яшчэ далей. Яна заявіла вучням: «З майго класа не пойдзе ніхто, нават калі ля парога збярэцца ўся сям'я. Я сама не іду, і вы таксама не пойдзеце.



 

 

# НЕЛЬГА ЗАБЫВАЦЬ

Ад першага сказа прашу прабачэння ў чытача за тое, што буду пісаць аб справе, якая найбольшую актуальнасць прадстаўляла ў 1966 годзе. Іменна тады выйшаў з друку «Культурна-асветны перагляд» выданы кураторыумам, акруговым метадычным цэнтрам і Беластоцкім таварыствам культуры. Выйшаў тады, але ў рукі аўтара папаў прыпадкова і нядаўна. Хаця гэтае выданне выйшла даўно, аднак хочацца сказаць некалькі слоў ад сябе, таму што яго чытанне насунула пэўныя рэфлексіі.

Не буду шырока пісаць аб пабудове выдання і аб змесце паасобных артыкулаў. Зрабілі гэта нашыя калегі з «Беластоцкай», а перад усім, думаю, самі настаўнікі. Настаўнікі таму, што гэта ім, беластоцкім настаўнікам мае служыць гэтая пазіцыя. 11 аўтараў займаецца праблематыкай беластоцкага школьніцтва. Чацвёртая частка (вельмі разбудаваная) прысвечана хроніцы беластоцкай асветы. І з тым можна больш-менш згадзіцца, таму што гэта першы нумар «Перагляду».

Аўтара занепакоіла адна справа, а менавіта, што на 197 старонках «Перагляду» ні словам не ўспомнена аб школьніцтве для нацыянальных меншасцей у Беластоцкім ваяводстве.

Зараз, зараз? — хто-небудзь скажа. А ці нацыянальнага школьніцтва не датычыць рэформа школьніцтва ў такой меры, як школ з польскай мовай?

Іменна таму, што датычыць і таму, што гэта школы агульнапольскай сістэмы навучання трэба прысвяціць ім належнае месца. Нельга не бачыць, што толькі беларускіх школ на Беласточчыне 172, што працуе тут 669 настаўнікаў, якія апрача нармальных праблем **маюць спецыфічныя справы.** Даследванні вынікаў навучання ў артыкулах «Перагляду» паказана і падрабязна і добра. Але не поўна. Маю на думцы польскую мову: калі падаецца школа Бельск № 3, дык чаму не дадаецца, што тут вучацца дзеці беларускай, роднай мовы. А гэта ж напэўна мае ўплыў на вынікі польскай мовы. Шкада толькі, што не ведаем якія: дадатнія ці адмоўныя. Здаецца, што некаторыя паказчыкі доследаў далі б настаўніку, ды і не толькі, магчымасць звярнуць увагу на недахопы. Ваяводскі цэнтр меў бы аказію да пэўных падагульненняў і давання ўказання школам. Шмат можна падаваць прыкладаў, аднак думаю і без гэтага выдаўцы мяне зразумеюць.

Урэшце хацелася б запрапанаваць выдаўцам, каб у наступных нумарах «Перагляду» змясціць матэрыял, скажам, аб аб'ектыўным значэнні навучання беларускай мовы ў дыдактычна-выхаваўчым працэсе. Фактычна ніхто гэтым у Польшчы не займаецца. Цэнтральны друк і выдавецтвы гавораць, што гэта справа не агульнапольская і сапраўды, а мы на сваім беластоцкім панадворку маўчымо.

Трэба дапамагчы настаўнікам адказаць на пытанні бацькоў: ці навучанне роднай, матчынай мовы ёсць неабходным элементам правільнага фарміравання індывідуальнасці дзіцяці пражываючага ў этнічна-нацыянальным асяроддзі, ці гэта толькі палітычны акт, аб чым некаторыя гавораць.

Шчырых і абгрунтаваных адказаў на гэтыя пытанні чакаюць перад усім настаўнікі. Адказы могуць пакуль што прыйсці толькі ад нас з Беласточчыны. Думаю, што ў гэтым уласцівым органам дапамаглі б многія ўключна з «Нівай», калі б дапамога аказалася неабходнай.

Мяркую, што выдаўцы ўласціва зразумеюць мяне і справы, якія закранаю ў сувязі з іх цэнным выданнем.

**А. Лабановіч**

**20 ГОД НАЗАД**

# СМЕРЦЬ МІЛІЦЫЯНЕРА



**Яшчэ цалкам маладзенькія, а ўжо ўзяліся за зброю, каб абараняць заваяванні маладой народнай улады. Справа Ваня Баран — Ульянаў сын, а побач яго сябра, Аляксандр Парфенюк.**

У 1947 годзе нехта прыехаў з Бельска арганізаваць у Вольцы Нурэцкай гурток ЗМВ. Ваня Баран, Ульянаў сын, якому тады было 18 год, як адзін з першых запісаўся ў яго члены. А потым добраахвотнікам пайшоў служыць у міліцыю. Праўда, не толькі ён адзін. Пайшлі разам яшчэ і іншыя вольчанскія хлопцы.

Ведалі, што на лёгкі хлеб не ідуць. У наваколлі поўна было розных банд, а найбольш грозныя слыхі хадзілі пра «Млота» і «Бурага».

Было лета. У нейкі святочны дзень пасярэдзіне вуліцы ішоў змучаны міліцыянер. Трымаючы аўтамат гатовы да стрэлу трывожна разглядаўся па сялібах. Сустрэчных людзей пытаў, дзе жыве дзядзька Ульян. Прыносіў яму жудасную вестку: яго Ваньку забілі бандыты.

Ці ж можна словамі пераказаць роспач старога, змучанага чалавека?!

На другі дзень аўтамашынай прывезлі цела ў труне. Ляжаў памыты і ачышчаны і ў зялёным мундзіры з нашыўкамі капраля.

І толькі з апавяданняў міліцыянераў, якія прыехалі адводзіць яго ў апошнюю дарогу, можна было даведацца пра яго трагічную смерць.

Пасля кароткага абучэння ў школе накіравана Ваню Барана ў Высока-Мазавецкую камендатуру. Туды кіравалі або найбольш стойкіх камуністаў або па штрафу. Высока-Мазавецкую камендатуру (тады яшчэ Бельскага павета) міліцыянеры называлі «Камчаткай».

Капраль Ян Баран быў намеснікам каменданта. За стойкасць і сумленнасць мясцовыя рэакцыянеры адразу яго зненавідзелі. Гавораць, што заставілі на яго пастку. Камендатура атрымала паведамленне, што ў нейкай вёсцы знайшлі дзіцё, падкідыша. Капраль Ян Баран асабіста адправіўся праверыць справу. І тады папаў у засаду. Жывым не здаўся. Адбіваўся да апошняга дыхання.

— Бок яму гранатамі вырвала.

— Глянь, і твар прастрэлены.

Гэта шапталі бабы, якія сабраліся памінаць памершага.

На могільнік адводзіла Ваньку ўся вёска. Наперадзе ішоў ваенны аркестр і іграў марша. За аркестрам на адкрытым грузавіку ехала труна. Галасней за аркестр заводзіла Надзька, дзяўчына Ванькі. Тры дні яна не ела і не піла. Бы заклятая, сядзела ля труны і плакала.

На могільніку, які знаходзіцца ў 5-ці кіламетрах ад нашай вёскі, з капралем Іванам Бараном развіталіся міліцыянеры ганаровым залпам.

**Віктар Рудчык**

# СКУПЫЯ МЫ НА КНІЖКІ!

Аказваецца, нашы гаспадары больш выдаюць грошай на запалкі ці іншыя дробязі, чым на куплю сельскагаспадарчых кніжак. У 1964 годзе адна сярэдняя гаспадарка ў Беластоцкім ваяводстве выдала на куплю сельскагаспадарчых кніжак аж... 9 злотых 17 гр.; у 1965 г. — 9 злотых 74 гр. (на 57 гр. больш), а ў 1966 г. — 10 зл. 10 гр. Смешныя гэтыя лікі — тым больш смешныя, што шмат з гэтых кніжак купляюць гаспадарам розныя сельскагаспадарчыя арганізацыі — за свае грошы і на карысць гаспадарам. Самыя гаспадары з уласнай кішэні наўрад ці выдалі нават палову гэтых парузлатовых сум-сумачак...

Амаль зусім не купляюць кніжак гаспадары ў большасці вёсак Сакольшчыны, а таксама ў некаторых аколіцах Беластоцкага павета (Ялоўка, Зубкі). (ся)

# ПАКАЗЫ

Ад месяца красавіка да верасня ў вёсках, у якіх адбываліся сельскагаспадарчыя курсы, арганізоўваюцца практычныя заняткі — паказы, дэманстрацыі, конкурсы, павязаныя тэматычна з мясцовымі патрэбамі і магчымасцямі.

Галоўнай мэтай гэтых практычных заняткаў з'яўляецца шырокая папулярызацыя асноўных агратэхнічных і заатэхнічных метадаў у вядзенні гаспадарак. На першае месца высоўваецца справы — барацьбы супроць хвароб і шкоднікаў сельскагаспадарчых раслін, догляд кармавых культур, рацыянальнае ўгнойванне поля, будова сіласаў і сіласаванне наогул. (ся)

**БЕЛАРУСІЯНА**

# ЭЛІЗА АЖЭШКА ЯК БЕЛАРУСАВЕД

Усім, хто чытаў кніжкі Элізы Ажэшка, вядома, што часта кранала яна ў сваіх творах праблемы жыцця беларускай вёскі. Мала аднак вядовым з'яўляецца факт, што гэтая вялікая польская пісьменніца была збіральнікам беларускага фальклору. Артыкулы Ажэшка аб беларусах друкаваліся ў этнаграфічным часопісе «Wisła» побач артыкулаў такіх культураведаў, як Кшывіцкі або Карловіч. У сувязі з тым, што матэрыялы гэтыя з'яўляюцца сёння для нашых чытачоў практычна недаступнымі, лічу сэнсоўным коратка пераказаць іх змест.

Першы артыкул Ажэшка пад загалоўкам „Kwiaty i ludzie nad Niemne m" паявіўся ў II томе «Wisły» з 1888 года. Пісьменніца аналізуе своеасаблівае пачуццё справядлівасці ў беларускага селяніна, іншае ад афіцыйнай дзяржаўнай справядлівасці. У наступнай частцы артыкула палемізуе яна з тымі, якія цвердзяць, што просты люд не цікавіцца прыродаю, а асабліва яе прыгажосцю. Ажэшка паклікаецца на дасканалае знаёмства беларусамі паасобных з'яў прыроды, а асабліва расліннага свету. У доказ падае народныя названні і апісвае 228 розных раслін.

У іншым артыкуле, пад гэтым жа самым загалоўкам надрукаваным у «Wiśle» з 1890 года, Ажэшка расказвае аб вялікім сямейным каханні ў беларусаў, а ў прыватнасці аб любві бацькоў да сваіх дзетак. Аўтар сцвярджае: «Бацькоўскае каханне не толькі існуе сярод мясцовых сялян, але, магчыма з прычыны малой колькасці іншых уцех, выразней і ясней рысуецца на фоне сялянскага жыцця, чымсьці гэта бывае ў іншых сферах».

У наступнай частцы артыкула Ажэшка ў вельмі вострай і пераканаўчай форме палемізуе з Матыасам, які на старонках гэтай жа «Віслы» сцвярджаў, што сяляне не маюць далікатных, высакародных пачуццяў, у тым ліку пачуцця бацькоўскага кахання.

У гэтым жа артыкуле пісьменніца падае 160 занатаваных у сваёй аколіцы беларускіх прымавак і пагаворак і 24 загадкі, а таксама расказвае аб спосабах народнага лячэння. (п)

і ніякіх размоў!» Гэта элегантна апранутая жанчына гадоў 25 з усмешкай закончыла сваю гутарку словамі: «Калі ён сустрэнецца мне, я проста плюну яму ў твар».

Прыкладна ў 11 раніцы з'явіўся дзённны выпуск «Таймс геральд». Адзін з работнікаў склада падручнікаў купіў газету і разгарнуў яе. У нумары быў надрукаваны маршрут руху калоны аўтамабіляў. Машына прэзідэнта павінна была праехаць у непасрэднай блізкасці ад склада і падысці на малой скорасці да трайнога віядукта.

Прэзідэнцкі самалёт «ВПС-1» стартаваў з аэрадрома Эндурс у 11 гадзін 05 мінут. За штурвалам сядзеў палкоўнік Джым Суіндзел, пілот з Алабамы з тварам пірата. Ён вёў статонную машыну экстра-класа, якая была аснашчана цудоўнай апаратурай і мела раскошна абстаўленыя гуканепранікальныя кабіны з устаноўкамі штучнага клімату.

Прэзідэнт адкрыў свой бачыўшы віды партфель з чорнай кракадзілавай скуры і расклаў яго змесціва на пісьмовым стале салона. Ён паглыбіўся ў вывучэнне дыпламатычных тэлеграм з паметкай «Толькі для прэзідэнта». Па другі бок праходу яго жонка і Памела Тэрнер працавалі над адзінай і вельмі кароткай прамовай, якую Жаклін Кенедзі збіралася сказаць у Тэхасе. Паколькі ёй трэба было выступіць перад лігай аб'яднаных лацінаамерыканскіх грамадзян, Жаклін вырашыла гаварыць па-іспанску — з яе кабіны класа «люкс» ясна даносілася гаворка з мяккім кастыльскім вымаўленнем.

Наперадзе, у штабным салоне, сядзеў сенатар Раф Ярбара. Ён быў вельмі ўсхваляваны. У апошнія дні сенатар даведаўся пра падрабязнасці інтрыг, што задумваліся губернатарам Конэлі. Чым больш ён раздумваў над гэтым, тым мацней рабілася яго абурэнне. На думку Ярбара, віцэ-прэзідэнт таксама прымаў удзел у змове супраць яго. Сенатар лічыў, што Конэлі і Джонсан «цёмныя, як душа рэспубліканца».

Джым Маціяс, адзін з рэпарцёраў, што суправаджалі прэзідэнта, спытаў у Ярбара аб падрабязнасцях сустрэчы, якую меркавалася наладзіць у Осціне. У адказ сенатар агрызнуўся: «Мяне цяпер ужо нічым не здзівіш. Губернатар Конэлі не мае ні малейшага ўяўлення аб сваіх службовых абавязках. Чаго ж ад яго чакаць?» Такім чынам, пальчатка была кінута адкрыта. Пасля ж прызямлення самалёта рэпарцёры, якія вылецелі раней спецыяльнай машынай для прэсы, напэўна даведаюцца пра гэта выказванне Ярбара...

У яркім сонечным святле горад выразна вырысоўваўся на фоне неба. Генерал Макх'ю, прыстаўлены да Кенедзі ў якасці сувязнога афіцэра ВПС, сказаў, што ў Тэхасе будзе халаднавата, а ў Сан-Антоніо — горача. Унізе, у міжнародным аэрапорце Сан Антоніо, Ліндан Джонсан толькі што выйшаў ад цырульніка і займаўся складаннем спісу камісіі для ўрачыстай сустрэчы. У такіх выпадках лэдзі Бэрд звычайна заўсёды бывала побач з ім. На гэты раз яна раптам убачыла ў натоўпе адну са сваіх былых савучаніц. Дамы пачалі абдымацца. Джонсан быў пакінуты адзін, заняты мноствам спраў. Але ён ніколі не губляўся ў такіх сітуацыях. Паводзіны Джонсана дзейнічалі на ўсіх супакойваюча. Калі на пасадачнай пляцоўцы спыніліся самалёты з прадстаўнікамі прэсы, якія прыбылі з Вашынгтона, Джонсан падрыхтаваў ужо спіс членаў камісіі, якая павінна была вітаць прэзідэнта.

«Вось ён!» — закрычаў хтосьці. І сапраўды, гэта быў ён — самалёт «ВПС-1» з зоркава-паласатай эмблемай на хвасце. Машына велічна каціла па ўзлётна-пасадачнай паласе. «Джэкі!» — закрычала нейкая жанчына, і натоўп падхапіў: «Джэкі-і-і! Джэкі-і-і!»

**(Працяг будзе)**




Публікуем чарговы спісак патрэбных беларускаму этнаграфічнаму музею ў Белавежы экспанатаў:

**Хата**

1. Клямкі, ручкі да дзвярэй:
2. Замкі да замыкання дзвярэй, засаўкі і ключы да іх адмыкання;
3. Завесы;
4. Столачкі (слончыкі), табурэткі;
5. Скрыні, куфры, сундукі;
6. Калыскі;
7. Прылады да навукі хадзіць або стаяць для дзяцей;
8. Дзіцячыя самаробныя цацкі;
9. Хатнія аздобы (самаробныя);
10. Старыя драўляныя іконы;
11. Прылады да асвятлення: дзед, падсвечнікі.

Прадметы для музея просім перадаваць у школы. Настаўнікаў просім паведамляць аб знаходках па адрасу: ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11.



 

## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Хуткімі тэмпамі будуецца другая чарга Гродзенскага азатукавага завода — капралактамавы завод. Гэты здымак зроблены на адным з участкаў новапабудовы. (Матэрыял арганізаваны для нас «Гродзенскай праўдай»).

Фота А. Перахода

# НЕБЯСПЕЧНА ДЛЯ СЛЫХУ

Калі сённяшнія амерыканскія падлеткі к 25 гадам вымушаны будуць карыстацца слыхавымі апаратамі, то ў гэтым яны павінны вінаваціць толькі саміх сябе, а іменна — сваё захапленне звышсучаснай джазавай музыкай. Узровень шумаў, што стваракоцца моднымі вакальна-інструментальнымі трыо і квартэтамі, настолькі вялікі, што ён можа мець самыя згубныя вынікі для барабанных перапонак іх слухачоў. Да такога вываду прыйшоў адзін з вядучых амерыканскіх спецыялістаў-акустыкаў Роберт Ларабел.

Роберт Ларабел выкарыстаў прамысловыя гукавымяральныя ўстаноўкі для ацэнкі ўзроўню музычнай какафоніі ў маладзёжных танцавальных і джазавых клубах Амерыкі. Паводле яго даных, узровень шумаў у гэтых установах перавышае шумы кавальскіх і кляпальных цэхаў металургічных заводаў, зборачнага канвеера аўтамабільнага завода. А на гэтых заводах рабочым у абавязковым парадку рэкамендуецца карыстацца індывідуальнымі гукаахоўнымі прыстасаваннямі. На адлегласці шасці метраў ад такога «музычнага ансамбля» сіла гуку дасягае 90—95 дэцыбел. Згодна з існуючымі правіламі, абслугоўваючы персанал аэрапортаў, не забяспечаны спецыяльнымі ахоўнымі прыстасаваннямі, не павінен працаваць пры такім узроўні шумаў больш чым 15 мінут — інакш гэта прывядзе да незваротных змяненняў у барабаннай перапонцы і прагрэсіўнай глухаты.

Роберт Ларабел строга забараніў сваім дзецям наведваць такія джазавыя і танцавальныя клубы і рэкамендаваў усім бацькам пераняць яго прыклад. Падобнае музычнае захапленне такое ж небяспечнае, сказаў ён, як і язда на аўтамабілі з хуткасцю 150 км у гадзіну.



# ЯК РАТАВАЦЬ ТАПЕЛЬЦА

Кожны год тысячы людзей праводзяць свае водпускі над вадою. Кожную нядзелю, і не толькі нядзелю, выязджаюць людзі на рэчку пазагараць і пакупацца. Але з гэтай вялікай прыемнасцю кожны год паўтараюцца тыя ж самыя няшчасныя выпадкі. Лёгкадумныя або тыя, хто не ўмее плываць — топяцца.

Каб паменшыць колькасць ахвяр, кожны павінен ведаць галоўныя асновы ратунку тапельца. Дапамога павінна быць неадкладна, зараз жа. Калі ўтопіцца чалавек, калі перастане кружыць кроў, клеткі мозга могуць жыць яшчэ каля трох мінут. Пасля трох мінут наступае біялагічная смерць, гэта значыць, што нервовая сістэма нішчыцца, таму што не хапае ёй кіслароду. Праўда, калі ўтопіцца чалавек, не заўсёды адразу перастае кровазварот, аднак хуткая і ўмелая дапамога вырашыць аб яго жыцці.

Калі выцягнем тапельца з вады, і пасля ачышчэння яму рота і носа ад мулу і зелля, выдаляем з арганізма ваду наступным чынам. Цела яго кладзем на сваё калена з перахіленнем галавы ўніз. Такім чынам выцякае вада з дыхальных шляхоў і стрававальных трактаў. Пасля кладзем тапельца на што-небудзь цвёрдае (напрыклад, на дошку), адварочваем назад галаву і нахіляем сківаіцу (żuchwę) наперад так, каб зрабіць уваход у дыхальнае горла (трахею або тхавіцу). Пасля праверкі аб затрымцы кровазвароту і біцці сэрца, пачынаем масаж сэрца, прыціскаючы рытмічна ніжнюю частку грудзіны. Далонь кладзем упапярок да даўжыні цела. Другую далонь кладзем на першую паралельна да грудзіны і націскаем 50—80 разоў у мінуту. Такім чынам сэрца сціснутае паміж грудзінай і пазваночнікам выпампоўвае кроў. Лепшыя эфекты атрымоўваюцца ў маладых і шчуплых людзей, таму што ў іх грудная клетка эластычная і больш падатная на націск, а ў сувязі з гэтым хутчэй выціскаецца кроў з сэрца. Пры дапамозе націскаў на грудзіну атрымоўваем частковую вентыляцыю лёгкіх. Найбольш паспяховым метадам з'яўляецца вентыляцыя «з вуснаў у вусны» (з рота ў рот), або «з вуснаў у нос». Другая асоба ўдмухвае паветра тапельцу. Падчас удмухвання паветра ў рот трэба заціснуць нос тапельцу, каб гэтае паветра не ўцякала праз яго. Удмухваецца паветра рытмічна 8 разоў на мінуту, або нават больш як 8.

Калі няма двух чалавек, ратаўнічую акцыю можа праводзіць адна асоба.

Пасля націску на грудзіну 10—15 разоў перарываем гэты масаж і ўдмухваем у рот паветра і зноў масуем сэрца, потым зноў удмухваем і далей масуем. У гэтым часе, безумоўна, будзем старацца, каб прыехала «фаховая» дапамога. Але ніколі нельга дапусціць на страту гэтыя найдаражэйшыя, першыя мінуты, якія вырашаюць аб жыцці або смерці чалавека.

Недахопам гэтага метаду з'яўляецца тое, што калі гвалтоўна прыціскаем грудзіну, можна зламаць скабу або пашкодзіць плеўру (opłucnę). Але акрамя гэтых недахопаў страты і шкоды зробленыя падчас карыстання гэтым метадам з'яўляюцца непараўнальна меншымі, чым неразважнае чаканне на фаховую дапамогу. І пакуль яна прыедзе — ратунак тапельцу ўжо беззнадзейны.

(ях)

# РУПЛІВЫЯ „ГАСПАДАРЫ"

Аб «дамавітасці» мядзведзяў, аб іх імкненні стварыць «утульнасць» мы ведаем яшчэ са старадаўніх казак аб мядзвежых хацінах. Аднак таджыкскія паляўнічыя ў адзін голас сцвярджаюць, што мядзвежыя хаціны, больш дакладна кажучы, кібіткі, «заселеныя» касалапымі, не такая ўжо і рэдкасць. Ёсць нават цэлыя мядзвежыя паселішчы. Мядзведзі, напрыклад, жывуць у апусцелых кішлаках Яфуч і Джаугі, размешчаных высока ў гарах Каратэгіна. Людзі з гэтых кішлакоў перасяліліся ва ўрадлівыя даліны яшчэ гадоў дзесяць назад.

У пакінутых кішлаках звяры карыстаюцца не толькі кібіткамі, але і садамі. Як руплівыя «гаспадары», яны падбіраюць апаўшыя плады, залазяць на дрэва і трасуць іх. Сытыя мядзведзі спакойна прагульваюцца па вуліцах паселішчаў...

Так расказваюць паляўнічыя. Ну, а калі спытаць вучоных?

— Так, мядзведзі жывуць у кішлаках пакінутых людзьмі, — сказаў супрацоўнік Інстытута заалогіі і паразіталогіі Акадэміі навук Таджыкістана А. І. Сокаў. — Я збіраюся з экспедыцыяй у высакагорныя раёны Паміра, каб прадоўжыць назіранні над іх прывычкамі. Разлічваю пабываць і ў тых месцах, дзе ўтварыліся «мядзвежыя паселішчы»...






### БУКЕТ РАМОНУ

Аня і Муха ішлі праз лес. Яны ішлі памалу, таму што Аня ўважліва глядзела на пні дрэваў, на нейкія адной ёй зразумелыя знакі.

Спачатку Муха, гледзячы на яе, недаверліва ківаў галавою. Потым яму надаела чакаць, пакуль яна круцілася на адным месцы, згадваючы, куды ісці далей, і ён пачаў збіраць букет.

«Ёй бы таксама кветкі збіраць, — думаў ён, гледзячы на фігуру дзяўчыны, — а яна туды ж... у бойню. Цела ў яе прыгожае. На вайне не чыкаюцца. Я б з ёй прайшоўся: прыгажуня. Небяспечна. Настрашыш яшчэ, потым толькі клопат будзе».

— Тут, — сказала Аня, — пад вольхай.

— Кінь...

— Вось дзівак, — сказала Аня, — я ж кажу: тут.

Яна стала на калені і ўзяла траву, бы ката за шкурку. Выразаны кінжалам квадрат дзярна падняўся, і Муха ўбачыў нешта белае. Аня выняла белы ручнік, разгарнула яго і дастала карту, пісталет і гранату.

— Ты што ж, без зброі да мяне прышла?

— Што ты, — адказала Аня і палапала сябе па кішэні, — у мяне тут лімоначка.

— Зброю дай мне, — сказаў Муха, — ты прыгожая, яны могуць да цябе заляцацца — спалішся.

Аня працягнула яму зброю.

— Лімонку таксама давай.

— Яна ж маленькая...

— Ты што? Давай, давай, Ань, не дурэй.

Ён схаваў лімонку, потым разгарнуў карту і сказаў:

— Ну, паказвай дзе.

— Вось тут.

Муха аж прысвіснуў:

— Ты зглузду з'ехала? Гэта ж сто дзесяць кіламетраў!

— Ну і што?

— Ты граніцу пераходзіла?

— Якую?

— Рэйха і генерал-губернатарства?

— Я пад дротам пралезла, але я не думала, што там граніца.

— За два дні зрабіла сотню вёрст?

— Ну і што?

— Дудкі.

— Ты не верыў, што я карту знайду.

— Ну, малайчына, — сказаў Муха, — калі так — малайчына! Там жа патрулёў безліч, як ты скрозь іх пралезла? Дакументы ў цябе таксама там?

— Вядома.

— Апішы мне дзе.

— Ты не знойдзеш адзін.

— Знайду.

— Не знойдзеш, Андруша. Там сухі чарот, там толькі я знайду.

— Добра, ідзем. Буду думаць, дзе коней дастаць. А найлепш было б на машыне; за тры гадзіны можна пад'ехаць да граніцы... А як пераносіць?

— Па маіх слядах — дзе я прашла. Я правяду, Андруша.

Вярталіся яны нацянькі, па сонцу. Праз гадзіну яны выйшлі да азярца. Аня ўсміхнулася, а Муха замёр на месцы, пытальна глянуўшы на дзяўчыну.

— Андруша, ты ідзі ўлева, а я тут выкупаюся, добра?

— Мо' ў хаце лазню зробім? — запрапанаваў Муха, апусціўшы вочы.

— Не, я паплаваць хачу, — адказала Аня, — я хутка, ты ідзі, пачакай мяне.

Ён сеў на траву і пачаў разглядаць букет. Потым ён убачыў Аню пасярэдзіне возера: яна плыла па-мужчынску. Рукі яна выкідвала далёка перад сабою, і Муха ўбачыў, што яна плыве голая.

« Чорт з ім, — падумаў ён, адчуваючы, як кроў ударыла ў твар, — спрабаваць можна».

Муха ўстаў і пайшоў да таго месца, дзе ён пакінуў Аню. Ен ішоў, прыціскаючы да сябе букет. Ён прышоў туды якраз у тую хвіліну, калі дзяўчына выходзіла з вады. Яна падышла да сукенкі, якая ляжала на жоўтым пяску, і ў гэты момант з карчоў вышаў Муха. Ён падышоў да дзяўчыны, кінуў пад ногі букет і абняў Аню. Ён абняў яе моцна і груба.

— Я адзін, адзін, адзін, — шаптаў ён, — я ўвесь час адзін...

— Не трэба, Андрушачка, — ціха, але зусім спакойна адказала Аня. — Я разумею, але не трэба.

Калі б яна закрычала, або пачала вырывацца ад яго, ён бы не апанаваўся. Але гэты яе ціхі, спакойны голас увайшоў у яго нейкім цягучым, забытым болем.

— Адзявайся, — хрыпла сказаў ён.

Калі Аня, адзеўшыся, села каля яго, Муха сабраў букет, падаў дзяўчыне і сказаў:

— Трымай. Падарак. Трымай.

І хапіў раптам паветра, быццам з вады вынырнуў.

Позна вечарам ён сказаў Ані, што

# ТРЫБУНА чытачоў

### МЕТАДЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Нядаўна ў Бахурах, Беластоцкі павет, адбылася метадычная канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Паказны ўрок вяла Аліцыя Чартовіч. Даклад на тэму «Праца настаўніка ў злучаных класах» чытала Яўгенія Прылажынская. Канферэнцыя прайшла на высокім педагагічным узроўні. Ранг канферэнцыі быў бы яшчэ вышэйшы, каб узялі ў ёй удзел прадстаўнікі інспектарата асветы з Беластока. Неприсутнасць прадстаўніка інспектарату выклікае падазрэнне, што павятовыя ўлады асветы замала ўвагі прысвячаюць навучанню беларускай мовы ў пачатковых школах. (мс)

### НА 100 ГА

У грамадзе Палічна, што на Гайнаўшчыне, у апошніх гадах значна павялічылася гадоўля быдла. На 100 га зямельных угоддзяў у ГРН Палічна выпадае 36 штук. Гэты лік перавышае сярэднюю павятовую колькасць быдла, якая акрэсліваецца на 33 штукі. Зараз у грамадзе налічваецца 1080 штук рагатай жывёлы. (см)

### АБГАРАДЗІЛІ

Нядаўна жыхары вёскі Аўгустова зрабілі падмурак і абгарадзілі драцяной сеткай пляц. 250-метравая агарожа ўпрыгожвае школу. Але найбольш школе прыдаюць прыгажосці кветкі. Тут іх многа. А насупраць брамы яны ствараюць незвычайны кветкавы дыван. Кветак тут усюды многа. У настаўніцкім пакоі налічыў я 20 кветак, якія растуць у большых і меншых вазонах. (сс)

### БУДУЕЦЦА ШКОЛА

У Рагачах сяляне грамадскім чынам будуюць школу. Нядаўна штодзень па 10—12 чалавек працавала пры выкопках пад фундамент. Зараз будуюцца фундаменты. Усе нефаховыя работы выконваюцца грамадскім чынам. Кошт будовы школы акрэсліваецца сумай 3 мільёнаў злотых. Згодна з планамі да зімы школа павінна мець зруб і пакрыццё. А калі ўсё добра пойдзе, школьнікі з Рагачоў, Мікуліч, Мядзвежыкаў і Баравікоў будуць мець прыгожую школу. Тут будуць таксама памяшканні для настаўнікаў. (мм)

### ПАКУПКІ ПА ЗАКАЗУ

На Гайнаўшчыне многа людзей пасылае заказы ў спецыяльнае высылковае прадпрыемства ў Лодзі. Асабліва жанчыны многа заказваюць тавараў.

А найбольш з гэтых тавараў карыстаюцца поспехам боцікі (снягоўцы), галёшы, коўдры, фланель, палатно. На пошце ў Старым Ляўкове амаль кожны дзень па некалькі пасылак прыходзіць з Лодзі.

Варта падкрэсліць, што высылковае прадпрыемства ў Лодзі вельмі саліднае. Заўсёды дакладна выконвае заказы. (хх)

---

едзе ў Кракаў, да сваіх людзей, па коні, або машыну. Вярнуцца абяцаў заўтра раніцай.

— Я цябе замкну, — сказаў Муха на развітанне, — так спакайней. І аканіцы замкну: у пустыя хаты яны не ідуць, яны туды ідуць, дзе печы топяцца.

А першай ноччу нехта асцярожна паскробаў да яе ў аканіцу. Аня замерла ў ложку і з жахам падумала, што ўся зброя схавана Мухай. Аканіца скрыпнула, адчынілася. Праз шыбу Аня ўбачыла сівага мужчыну. Ён паклікаў Аню пальцам, ён бачыў яе, таму, што на ложак падала святло месяца.

Аня падышла да акна.

— Мяне прыслаў Андрэй, — сказаў Сівы.

Чалавек гаварыў з польскім акцэнтам.

— Які Андрэй?

— Адчыніце акно, не бойцеся, калі б я быў немец, я б ішоў праз дзверы.

Аня адчыніла акно.

— Дачка, — сказаў чалавек. — Андрэй загадаў мне тэрмінова прывесці цябе на запасовую кватэру. Тут стала небяспечна, ідзем.

Аня глядзела хвіліну ў твар сівога чалавека. У яго былі блакітныя дзіцячыя вочы.

Аня хутка адзелася і пералезла праз акно.

**(Працяг будзе)**

### СУСТРЭЧЫ З ЖУРНАЛІСТАМІ

У маі месяцы адзначаліся Дні асветы, кніжкі, радыё і прэсы. У сувязі з гэтым журналісты «Нівы» правялі многа спатканняў з насельніцтвам. У канцы мая адбыліся сустрэчы журналістаў «Нівы» з насельніцтвам Гайнаўшчыны. І так, у Старым Ляўкове — Уладзімір Паўлючук, у Ляшуках — Вера Леўчук, у Тарнопалі — Міхась Хмялеўскі расказвалі на сходах аб ролі прэсы, аб значэнні яе ў развіцці культуры аб неабходнасці чытання беларускага друку і кніжак.

У сваіх выступленнях журналісты «Нівы» шмат часу прысвяцілі 450-годдзю беларускага друку, асабліва падкрэсліваючы дзейнасць Францішка Скарыны.

**Міхась Сваяк**

## Чытачы пытаюць — «НІВА» адказвае

**Пытанне:** Жонка мая забрала з дому дзяцей і аддала іх да сваіх бацькоў, а цяпер звярнулася ў суд аб аліменты. Ці можа суд засудзіць аліменты ў абставінах, калі я сам хачу ўтрымоўваць дзяцей, якія знаходзяцца ў іншых паміма маёй волі?

**Адказ:**

Абавязак утрымоўвання і выхавання дзяцей з'яўляецца незалежна ад таго, дзе знаходзяцца дзеці і ці знаходзяцца там за згодай бацькоў. Калі Вы хочаце самі выхоўваць дзеці, то павінны звярнуцца да апякунчай улады (Павятовы Суд) з патрабаваннем, каб дзеці былі перададзены Вам на выхаванне. Толькі ў тым выпадку, калі суд вырашыць, што дзеці павінны жыць з Вамі, Вы не будзеце абавязаны да аліментаў. Само пажаданне, каб выхоўваць у сябе дзеці не звальняе ад абавязку ўплачвання коштаў іх утрымання.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка!

Тры месяцы таму назад у нашу вёску прыехаў хлапец. Працуе ён у ГРН. На першай забаве, якая адбылася ў нашай вёсцы, мы з ім пазнаёміліся. Ён вельмі прыстойны, інтэлігентны. Спадабаўся мне. Відаць і я яму таксама спадабалася. Ён прыходзіў да мяне штовечар праз тры месяцы, хоць кватэру меў у другім канцы вёскі. Гаварыў, што пакахаў мяне. Мы разам хадзілі на кожную забаву і толькі з сабою танцавалі. Нядаўна ён перайшоў на другую кватэру (блізка мяне) і перастаў прыходзіць. Як я даведалася, гаспадыня, у якой ён на кватэры, усяляк на мяне нагаварыла, а яе сын увогуле не пускае Толіка да мяне прыходзіць, а ўсё разам з ім праводзіць час. Гэтая гаспадыня калісьці пасварылася з маёй мамай і таму цяпер мае аказію, каб зрабіць нам на злосць. У мінулую нядзелю была забава. Быў і Толік. Ён пад канец забавы падыйшоў да мяне і сказаў, што хоча са мной пагаварыць. Аднак я не захацела з ім гаварыць і хутка пабегла дамоў. На другі дзень была я ў ГРН па справе, і ён ізноў хацеў са мною гаварыць, але я яму адказала, што не маю ахвоты, і пайшла. Дома прыходжу і плачу, бо кахаю Толіка. Што рабіць, ці дараваць яму гэткія яго паводзіны, ці не? Парай, толькі хутчэй, бо мне сапраўды цяжка так далей жыць.

Лена з Бельскага павета

Дарагая Лена! Сапраўды брыдка Толік пастунае, бо не можна жыць чужым розумам, як кажуць, а трэба мець свой. Аднак у тваім выпадку раю табе, Лена, пагаварыць з Толікам, мо' ён ужо адумаўся і хоча перапрасіць цябе. А калі так, дык гэта для вашага шчасця, бо як пішаш, вы кахаеце адзін аднаго, а непаразуменні бываюць і ў сапраўдным каханні.

Сэрцайка

**Каркас трактара «Урсус» у школе ў Орлі.**
Тэкст і фота **П. Зінкевіч**

Школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (СПР) арганізуюцца пры пачатковых школах. СПР-ам прыдзялялі ўстановы і сельскагаспадарчыя гурткі трактары і іншыя складаныя машыны з той мэтай, каб лягчэй было іх вывучыць.

Зараз многія з гэтых сельскагаспадарчых машын настолькі ўжо папсаваліся і знішчыліся, што ніхто з іх не карыстае, яны ўрастаюць у зямлю. І тут насоўваецца пытанне, чаму б іх не забраць на злом. Гэта ж столькі жалеза нішчэе. Ды яны завальваюць школьныя пляцы і выклікаюць непрыемнае ўражанне.

### БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ

Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы вельмі цікавы. У маі наведала яго 1268 асоб. Усе з вялікай цікавасцю аглядалі экспанаты матэрыяльнай культуры і мастацтва беларусаў, пражываючых у Польшчы. У заўвагах у кніжцы для памяці наведвальнікі пішуць, што музей у Белавежы з'яўляецца каштоўнай дапамогаю ў пазнаванні матэрыяльнай культуры беларусаў.

Вельмі многа карыстаюць з наведвання музея студэнты і школьнікі. Сведчаць аб гэтым, напрыклад, заўвагі студэнтаў універсітэта імя Марыі К. Складоўскай у Любліне і вучняў варшаўскіх і іншых школ.

Музей наведала б больш людзей, каб усе экскурсіі, якія едуць у Белавежу, прыходзілі да яго. На жаль, некаторыя з экскурсій не ведаюць аб тым, што існуе этнаграфічны беларускі музей. Таму з'яўляецца неабходным зрабіць на ўсіх галоўных пунктах Белавежы інфармацыйныя напісы на дошках і пляншах. Сарганізуе гэта ў блізкай будучыні ГС у Белавежы.

Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы паўстаў дзякуючы грамадскай ініцыятыве. Каб ён далей развіваўся і стаў на належным узроўні, неабходна дапамога ўсяго насельніцтва, а ў першую чаргу актыўных дзеячоў. Трэба забяспечыць сродкі для яго далейшага развіцця. У гэтым годзе будзе працягвацца зборка экспанатаў да музея. Збіраюцца ўсе рэчы зробленыя рукамі людзей а таксама вясковых кавалёў і рамеснікаў, апрача фабрычна выкананых прадметаў. Кожны, хто аддасць у музей гэтыя прадметы, унясе свой уклад у вялікую справу ратавання мінулай культуры Беларусі. Калі знаходзяцца ў вас цікавыя старыя прадметы, прысылайце весткі аб гэтым у Галоўнае праўленне БГКТ. Усім, хто аддасць забытковыя прадметы, будзе наша вялікая ўдзячнасць.

**Уладзімір Гацута**
Белавежа

### НЯМА КАМУ ВЫКАНЧЫЦЬ

Ужо тры гады як у Мілейчыцах пабудавана памяшканне на грамадскі пункт аховы здароўя. Пабудаваны, але не выканчаны. Не зроблена там цэнтральнага ацяплення, водаправоднага і санітарнага абсталявання. Ды зрабіць у Сямяціцкім павеце няма каму. Сямяціцкае рамонтна-будаўлянае прадпрыемства не мае там спецыялізаванай групы, а ваяводскае прадпрыемства рамонтна-будаўлянае не рэагуе на інтэрвенцыі ГРН у Мілейчыцах.

Маглі б выканаць гэтыя работы прыватныя прадпрыемствы, але зноў на большыя сумы не дазваляюць законы. А шкада, вельмі шкада, таму што новае памяшканне, як кажуць, «на гвалт» патрэбнае. (СХ)

### ДРЭНАЦЫЯ

У раёне вёскі Дашы на Гайнаўшчыне на абшары 600 га зямельных угоддзяў праводзіцца дрэнацыя. У гэтым годзе згодна з планам дрэнацыя будзе праведзена на 150 га зямлі. Сярод многіх жыхараў вёскі Дашы пануе вялікае незадавальненне, таму што некаторыя зямельныя дзялянкі, на якіх растуць сельскагаспадарчыя культуры, так моцна парыты равамі, а гэта значыць знішчаныя пасевы. Людзі разумеюць патрэбу і дабрадзействы дрэнацыі, але незадаволены з таго, што моцна знішчаны палеткі з жытам, пшаніцаю ці бульбаю. Абавязковыя пастаўкі збожжа трэба будзе выконваць без льгот. Не было б нараканняў, каб у некаторых выпадках для некаторых гаспадароў па поваду дрэнацыі былі прызнаны ільготы. (мх)

## КІНО

Праграма
4—9.VII.1967 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Teresa prowadzi śledztwo" (czeski), 4 — 5. „Tomcio Paluch" (USA), 6 — 7. „Kochajmy syrenki" (polski), 8 — 9.

**Нараўка**

„Bokser" (polski), „Samotna" (radz.), 5 — 9.

**Нарва**

„Strzelby Apaczów" (USA), „Nasz wspólny przyjaciel" (radziecki), 5 — 9.

**Чыжы**

„Panie inspektorze" (jugosł.), „Śmierć Belli" (franc.), 5 — 9.

**Дубічы Царкоўныя**

„Arcylokaj" (radz.), „Odraza" (węgierski), 5 — 9.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Okno na Lunapark" (włoski), „Ranny w lesie" (polski), 5 — 9.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Pluton 317" (franc.), 4 — 5. „Ściana czarownic" (polski), 6 — 7.

**Міхалова**

„Piąty wydział" (czeski), 4 — 5. „Kapral w matni" (franc.), 6 — 7. „Sam pośród miasta" (polski), 8 — 9.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Chudy i inni" (polski), „Sami na wyspie" (jugosł.), 5 — 9.

**Новы Двор**

„O carski tron" (bułg.), „Siódmy przysięgły" (franc.), 8 — 9.

---

„НІВА" — ТВОЙ НАЙЛЕПШЫ ПРЫЯЦЕЛЬ

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 7.173 Błtk M-3

# Маляванка

Людзі гавораць, што як увайшлі ў моду артыляновыя плашчы, то і вясна дастасавалася да іх моды і дажджынамі не скупіць.

Пара траву касіць. Мужыкі з дня на дзень чакаюць на лепшую пагоду і гавораць: — Далінкі артыляновым плашчом не прыкрыеш, а касіць ужо трэба.

Ля жалезнай крамы грамадка мужыкоў з косамі ў руках... Аб камені косамі стукаюць і ўслухоўваюцца ў гук. Выбіраюць, якая каса будзе лепшая...

А Федзя Балабонаў усадзіў рукі ў кішэні і смеючыся падыходзіць да маго Кастуся і кажа: — Што, і ты прыехаў касу выбіраць?..

— Э, браток, у мяне да касы за слабыя рукі, — застагнаў Кастусь, разглядаючыся ў бакі...

— Мусі касілку хочаш новую закасіць на гумовых калёсах? Нават разглядаешся. Касілкі сёння такі цымэс, што ў вясковых ГС-ах пры свечцы не знойдзеш. Толькі хто спрытнейшы і мае ходы, той купіць. У гуртовых магазінах ПЗГС-у. Ведаеш сам як. Там кожны тавар мае сваю цану... — лыпнуў Балабон адным вокам.

— Ну і эканом з цябе, Федзя! А навошта ж мне толькі грошай вывальваць на касілку, калі ў нас у вёсцы ёсць такі кулковы фрызар, што за паўгадзіны абстрыжэ мне цэлую даліну. Такая прыслуга менш каштуе, як бабская андуляцыя. Разумееш сам — часы настаці ныляновыя, а грошы ні ў каго не валяюцца...

— Э! Кастусь — бачу, што хутка цябе ў вёсцы солтысам зробяць...

— А чаму ты так думаеш?..

— Пабач сам, хто мае шпарчэйшыя рукі, а слабшую галаву — той па дзедаўскай прывычцы яшчэ касу на камяні пробуе. А ты, Кастусёк, маеш на плячах галоўку і, мауляў той, па-ныляноваму думаеш...

— Але таксама за старым разглядаюся. Пара бульбу абгортваць. Хачу купіць новую сошку...

— Авось там, пад плотам, паўзірайся. Ляжаць памалёваныя на чырвоны колер...

Кастусь адразу схапіўся за кішэнь і выцягнуў свой партманет...

Тут я не вытрымала і ўмяшалася. Кажу: — Пачакай, дурніца, і паўзірайся, за што плаціш. Ты ж маеш і сваю такую паржавелую маляванку...

І Кастусь адразу апусціў рукі.

**Цётка Мальвіна**

# НІЎКА



### НА ПАШТАМЦЕ

Адзін чалавек сядзіць за сталом і нешта піша. Двое стаяць побач і размаўляюць:

— Якая прыгожая аўтаручка ў тваго знаёмага!

— Яна яго корміць.

— Ён што? Піша?

— Піша, вельмі многа... свайму бацьку, каб прыслаў грошы.

### ДАРЭМНЫЯ ТУРБОТЫ

Вучань прыйшоў са школы.

— Мама, я запісаўся сёння ў пяты гурток?

— І куды там вашы настаўнікі глядзяць! Калі ж ты ўрокі рабіць будзеш? — узлавалася маці.

— Не турбуйся, мама. Ніводзін жа гурток не працуе.

### ПРАВІЛЬНА АДКАЗАЎ

Сын спытаў у бацькі:

— Як раней маглі людзі жыць без тэлевізараў?

— Тады мы больш адпачывалі, — адказаў бацька.

### ТАБЛІЦА МНОЖАННЯ

— Мама, а я ўжо табліцу множання ведаю, — пахваліўся сын маці.

— Цудоўна, — адказала маці. — Колькі будзе, калі пяць памножыць на сем?

— Трыццаць пяць.

— А сем на пяць?

— Мы да сямі яшчэ не дайшлі.

### ЛЕПШ І НЕ ТРЭБА

— Ну, як з гукаізаляцыяй? — спытаў старшыня камісіі, якая прымала новы дом.

— Нічога, добра! — пачулася за сцяной з суседняй кватэры.

### ЗНАЁМІЎСЯ

— Дзе ты так доўга быў? — спытала жонка ў мужа.

— Знаёміўся з работаю працвярэзніка на практыцы! — адказаў той.

### РУКІ

Рука руку мые...
Ды гразь не адмые.

**Яўген Верабей**

### ШТО АДКАЗАЦЬ?

Бацька з пяцігадовым сынам праходзіў ля магазіна спартыўных тавараў. У вітрыне малы заўважыў дзіцячую каляску.

— Тата, а ў якім відзе спорту ўжываюць гэта прыстасаванне? — спытаўся ён.

### ПАРАЎ

Вучань (на занятках фізкультуры): — Гэтае практыкаванне мне не пад сілу, Фёдар Іванавіч. Я не змагу зрабіць стойку на руках галавою ўніз.

Настаўнік: — А ты паспрабуй зрабіць нагамі ўверх. Павінна выйсці.

### ПОМНІЦЬ

— Пазычыла ў мяне ўчора Анфіса пральную машыну, ды нешта не нясе...

— Во дзіва: у 1935 годзе яна пазычыла ў мяне верацяно, дык і па гэты час яшчэ не аддала.

# АКІЯН І ЛУЖЫНА

Я сказаў:
«Акіян — вялікая лужына».
Як усхадзіўся акіян!
Маўляў, пакрыўдзілі незаслужана,
абразілі акіянскі сан.
Як загудзеў, зашумеў раз'юшана,
як пагнаў за валам вал?
«Я вам пакажу, якая я лужына!
Я болей прывык да од і пахвал».
Я моўчкі глядзеў, як шалее стыхія,
і думаў са скрухай:
«Вялікі такі,
а крыўдзіцца гэтак жа, як і другія,
як дробныя лужыны і ручайкі».

Я глядзеў, як хвалюецца лужына.
Бачыў я воблакаў караван,
бачыў у лужыне неба засмужанае.
— Лужына — мікраакіян.
Словы мае пачула лужына.
Лоб наморшчыла напружана
І пачала падрабляць свой зыб
пад акіянскую шыр і глыб.
Думала, што разлілася бязмежна,
што выйшла за берагі свае.
Я глядзеў, і мне было смешна
і мне было сумна за яе.

**Анатоль Вярцінскі**




— Табе яшчэ рана чытаць такія кніжкі.

### НА ВУЛІЦЫ

Ідзе з чамаданам малады чалавек і раптам яму насустрач — бягуць некалькі мужчын. Адзін нават збіў яго з ног.

Чалавек з чамаданам: Што такое? Куды вы бяжыце?

Першы мужчына: Уцякай, а не, дык і табе пападзе.

Чалавек з чамаданам: Ад каго ўцякаць? Ад каго пападзе?

Другі мужчына: Уцякай, а то позна будзе.

Трэці мужчына: Ты што, аслеп, не бачыш? Хуліган бяжыць.

Чалавек з чамаданам: Дык ён жа адзін, а вас вунь колькі такіх здаравякоў!

Чацвёрты чалавек: А чорт яго ведае, за кім з нас ён гоніцца?

**Міхась Скрыпка**

### У АЎТОБУСЕ

Міліцыянер супакойваў маленькага сына, які плакаў і вырываўся з рук. Раптам з задняй пляцоўкі аўтобуса пачуўся дзіцячы голас:

— Мама, а за што яго дзядзя міліцыянер забраў?

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе хлопцаў з VI б кл. беларускага ліцэя ў Гайнаўцы змяшчаем песню п. з.

# КАК ХОРОШО НА СВЕТЕ ЖИТЬ!

Музыка И. Дунаевского

Как много девушек хороших,
Как много ласковых имён!
Но лишь одно из них тревожит,
Унося покой и сон,
Когда влюблен.
Любовь нечаянно нагрянет,
Когда ее совсем не ждешь,
И каждый вечер сразу станет
Удивительно хорош.
И ты поешь:
— Сердце, тебе не хочется покоя!
Сердце, как хорошо на свете жить!
Сердце, как хорошо, что ты такое!
Спасибо, сердце, что ты умеешь так любить!




### Чаго баяцца жанчыны

Чаго баяцца жанчыны? Гэтае пытанне даследваў адзін англійскі псіхолаг. Прысвяціўшы некалькі год вывучэнню прычын жаночага страху, ён урэшце выявіў каля ста прычын, якія страшаць жанчыну, а з іх вылучыў яшчэ дванаццаць, найбольш агульных. Вось гэтыя прычыны: жанчыны баяцца

старэння,
паўнаты,
публічных выступленняў,
заставацца ноччу адной,
знявахання пачуццяў бліжніх,
таго, што дзеці могуць ашукаць,
быць несімпатычнымі,
крытыкі,
расставання з чалавекам, якога любяць,
згубіць жаноцкасць,
выглядаць залішне жаноцкай,
мышаў, павукоў і змеяў.



### Першая за трыста год

У сям'і Эрл з Тэхаскага мястэчка Брыян здарылася радасная падзея: у місіс Эрл нарадзілася дачка. Як вядома, гэта — з'ява даволі частая, але справа ў тым, што маленькая Шэлі — першая дзяўчынка, якая за апошнія трыста год нарадзілася ўродзе Эрлаў.




**Калі баішся падаць, лепей не лезь угору.**

